ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

14 лістапада 1997 г. № 46/3922 Кошт 3 000 руб.

## НАЦЫЯНАЛІЗМ

**_Леанід ЛЫЧ: "Беларусы адносяцца да той жменькі еўрапейскіх народаў, якім па самых розных прычынах не ўдалося да канца прайсці стадыю нацыяналізму. Здавалася б, толькі радавацца трэба, што не давялося яго перажыць. Але радасць адразу знікае, як падумаеш, што мы на працягу стагоддзяў заставаліся без уласнай дзяржавы, былі пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць сваю родную мову ў грамадскім жыцці і вучыць дзетак на ёй..."_**

3, 14—15

## КАРНАВАЛ НА "МАТЭРЫЯЛЕ" ПАМІРАННЯ

**_У "Бліц-крытыцы" абмяркоўваецца аповесць Віктара КАЗЬКО "Да сустрэчы..."_**

7

## ПАРТРЭТ З ВЫШЫНІ ПАЛЁТУ

**_Мікалай ШЫЙКО: "Скананне СССР — гэта вызваленне людзей ад каланіяльнай залежнасці. Глядзець з сумам на парэшткі плюгавай імперыі? Іга, прыгон — гэта не толькі адсідкі ў ГУЛАГу. Гэта калі беларус не можа гаварыць па-беларуску, а ўкраінец — па-ўкраінску, гэта калі можна сказаць на іх — "не хочуць", у той час калі іх мовы проста скралі"._**

10—11



# _Вандроўка з Янам Голандам_

Манаграфічны фестываль чыннікі "Беларускай Капэлы" зладкавалі ўпершыню. І прысвяцілі яго творчасці Яна Давіда Голанда.

Еўрапейская славутасць, таленавіты кампазітар, тэарэтык музыкі, педагог, спадзвіжнік К. Ф. Э. Баха, ён пакінуў родную Германію, прыняўшы прапанову ад Караля Радзівіла — працаваць прыдворным капельмайстрам у Нясвіжы. Потым былі гады плённай і шматграннай дзейнасці ў Вільні, дзе і завяршыўся зямны шлях Яна Голанда — у снежні 1827 г. 170 гадоў таму.

Дарэчы, летась споўнілася 250 гадоў з дня яго нараджэння. Важкія лічбы. Але толькі цяпер адкрылася нам імя гэтага музыканта, якога можам называць сваім земляком і чыю творчасць маем права прыняць у нацыянальны спадчынны культурны набытак. Бо як жа іначай ставіцца да кампазітара, чый лёс настала спакровіўся з музычным жыццём на беларускіх землях, дзе працаваў ён чатыры (з ладным лішкам!) дзесяцігоддзі — аж да скону...

Імпрэзы VII фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы", прысвечанага гэтай адметнай постаці, адбываліся ў сталічным храме, што на Залатой Горцы, у зале Рэспубліканскага каледжа пры Акадэміі музыкі, у Нацыянальным мастацкім музеі. Музыка Яна Голанда, якая запрашала слухачоў да амаль штовечаровай вандроўкі па канцэртных асяродках Мінска, падаравала ўрэшце прыгожае сімвалічнае падарожжа па шляхетных асяродках даўняй Еўропы, даўняй Беларусі. Бо фестывальныя праграмы, пра якія мы з часам распавядзём, атулялі слухачоў пэўнай "эстэтычнай адмысловасцю", сканцэнтраванаю ў назвах: "Голанд у Гамбургу", "Голанд у Нясвіжы", "Голанд у Вільні"...

_Фота Аляксея МАЦЮША_



_Салісткі Таццяна ВАРАПАЙ і Алена БУНДЗЕЛЕВА._



_За дырыжорскім пультам — Уладзімір БАЙДАЎ, лідэр ансамбля "Класік-Авангард" і музычны кіраўнік фестывальных праграм._



_Ансамбль салістаў "Класік-Авангард"._

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Усё дваццатае стагоддзе колькасць беларусаў у свеце вагаецца каля лічбы 10 мільёнаў чалавек. Так было на пачатку стагоддзя, так ёсць цяпер, напрыканцы яго. Але калі раней скарачалі насельніцтва Беларусі войны, рэвалюцыі ды іншыя "стыхійныя" бедствы, то сёння жывём мы пад мірным небам. І тым не менш ужо каторы раз сёлета даводзіцца канстатаваць, што насельніцтва нашай краіны не павялічваецца, а памяншаецца. Па апошніх дадзеных толькі за 8 месяцаў гэтага года нас стала менш на 22,3 тысячы чалавек. Нараджальнасць няўхільна змяншаецца, смяротнасць расце... Пішацца і гаворыцца пра гэта ўжо некалькі гадоў запар, б'юць у званы вучоныя і медыкі, сцвярджаючы, што да канца дваццаць першага стагоддзя ў свеце можа не застацца ніводнага беларуса, аднак звон гэты ніяк не дойдзе да вушэй тых, хто ў адказе за народ, за жывых людзей. Патрэбна комплексная праграма дзеля прадухілення рэальнай пагрозы страты нацыі, патрэбны грошы на дапамогу маладым сем'ям і маці, каб не баяліся яны заводзіць другое ці трэцяе дзіця, патрэбны канкрэтныя змены ў сістэме аховы здароўя, патрэбны, урэшце, проста ўвага і разуменне. Патрэбны... Толькі вось у нас прывыклі, што "ініцыятыва" павінна зыходзіць ад аднаго пэўнага чалавека на самым "версе". І ніхто не будзе дзейнічаць, пакуль не з'явіцца ўказ, дэкрэт, зварот ці нешта іншае. Так нас навучылі. Такія мы ёсць. Так жывём і выміраем...***

### "СЕНСАЦЫЯ" ТЫДНЯ

Вобраз Беларусі ў свеце зноў успрымаецца на фоне наручнікаў і кратаў. Кадры сцэны арышту міністра сельскай гаспадаркі В. Лявонава проста ў рабочым кабінеце, паказаныя па Беларускім тэлебачанні, падхапілі і разнеслі па свеце ўсе буйнейшыя тэлекампаніі. Невядома, чаго хацелі дабіцца гэтым "іміджмейкеры" беларускага прэзідэнта. Хутчэй за ўсё яшчэ больш узмацніць ягоныя пазіцыі як "галоўнага барацьбіта з мафіяй" сярод электарату, зусім не падумаўшы, як будуць расцэнены гэткія "рашучыя" дзеянні ў свеце. Арышт чыноўніка, хай і буйнога дзяржаўнага, сам па сабе не падзея, не дзіва, здараецца такое не толькі ў Беларусі. У нас жа гэта, на жаль, ператвараецца ў "эфектную" агітацыйную кампанію.

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Прымаўка — "дзе два беларусы, там тры партыі" — стала ў нас ужо даўно агульнапрызнанай і банальнай ісцінай. Дэмакратычная апазіцыя цярпела паразу за паразай якраз таму, што не магла знайсці грунт, на якім можна было б з'яднацца ўсім. Здаецца, на мінулым тыдні гэткі грунт знойдзены: сто самых уплывовых дзеячаў культуры, палітыкаў і журналістаў (незалежна ад уласных перакананняў і амбіцый) падпісалі так званую Хартыю-97, мэта якой аднаўленне на Беларусі законнасці на аснове Канстытуцыі 1994 года. І ўсё-ткі ці стала Хартыя-97 той платформай, якая з'яднае дэмакратычны рух? У двух беларусаў з трох сумненні застаюцца...

### ВЫЗВАЛЕННЕ ТЫДНЯ

Пасля амаль дзесяці месяцаў знаходжання ў адзіночцы славутай мінскай "амерыканкі" выпушчана на волю пад падпіску аб нявыездзе былая старшыня Нацбанка Беларусі Тамара Віннікава. Следства між тым працягваецца і абвінавачванні з Т. Віннікавай не здымаюцца, хоць сама Т. Віннікава лічыць, што справа яўна зайшла ў тупік.

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У Мінску прайшло двухдзённае пашыранае пасяджэнне сакратарыята Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя (ЕМАП). Сустрэча парламентарыяў краін, дзе праваслаўная вера мае моцныя пазіцыі, прайшла на высокім узроўні. Удзельнікаў яе прымалі прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, старшыня Савета Рэспублікі П. Шыпук, іншыя афіцыйныя асобы. Беларусь хацела б скарыстаць ЕМАП для вываду нашай краіны з міжнароднай ізаляцыі. Дапамога ў гэтым паабяцана. Толькі вось, па-першае, ці будзе яна дзейснай? А па-другое, Беларусь усё-ткі шматканфесійная краіна і як бы падтрымка адной канфесіі не вылілася ў супрацьдзеянне другой, не менш уплывовай у свеце...

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Ад пачатку кепскіх альбо добрых народаў не бывае, людзі самі па сабе не анёлы, але і не пароджэнне пекла. Дык чаму ж у адных краінах наверсе аказваюцца дастойныя і прыстойныя людзі, а ў іншых — прайдзісветы і нягоднікі?.. Гісторыя кожнай краіны, маральны воблік любога народа дазваляюць вызначыць, куды скіраваны сілы іх духоўнага прыцягнення і напругі. Да пошуку Царства Божага на зямлі ці ў бок Канца Свету, Апакаліпсісу. Уяўленні пра тое і іншае зусім не абстрактныя і бесцялесныя. Яны набываюць рэальнасць ва ўчынках і паводзінах людзей, у іх лёсах. А ў канчатковым выніку — у лёсах краін і народаў".

*(З артыкула В. Гушчына "Час мяняць лёс, а не палітыкаў", "Литературная газета", 5 лістапада г. г.).*

### УКАЗ ТЫДНЯ

Беларусь адзначыць на афіцыйным узроўні 200-годдзе з дня нараджэння свайго вялікага сына, знакамітага польскага паэта Адама Міцкевіча. На мінулым тыдні прэзідэнт Беларусі падпісаў адпаведны ўказ. Святкаванні юбілею пройдуць у асноўным на радзіме паэта — Навагрудчыне.

### НАВІНКА ТЫДНЯ

На Беларусі з'явілася новая спецыяльная нацыянальная прэмія "За духоўнае адраджэнне", якая будзе штогод уручацца ў дзень Раства Хрыстова "за выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай сферы, якая накіравана на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый і спрыяе сцвярджэнню духоўных каштоўнасцяў, ідэй і братэрства паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў". Лаўрэаты атрымаюць, акрамя грашовай прэміі, ганаровы медаль і дыплом. Адбор твораў на атрыманне прэмій будзе рабіць Міністэрства культуры разам з... Беларускай праваслаўнай царквой.

### ЦНАТЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Трэба сказаць, што рэкламу фільму "Апошняе спакушэнне Хрыста" расійскі тэлеканал НТБ зрабіў выключную: аж да амаль гадзіннага паказальнага суда. І, у рэшце рэшт, пасля таго, як гэты фільм тройчы здымаўся з праграм, вырашана было яго паказаць. Аднак беларускія тэлегледачы зноў не змаглі яго ўбачыць: без ніякіх абмеркаванняў і "судоў" канал НТБ на час паказу фільма на тэрыторыі Беларусі быў адключаны...

---

З НАГОДЫ

# Ад Незалежнасці да Кастрычніцкай...

Назіраў я за тым, як адзначалі 80-ю гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі, і не зразумеў вось чаго: Беларусь ці Расія — "самая савецкая" з пятнаццаці рэспублік-сясцёр? Лічыце, што Беларусь? Чаму ж тады не наш, а расійскі прэзідэнт звярнуўся да народа з прамовай па нацыянальным тэлебачанні? Праўда, не ўсё, што казаў Барыс Мікалаевіч, прыемна пачуць савецкаму чалавеку, але — якая ўвага "святой даце"! Нехта падумаў, што я збіраюся крытыкаваць Аляксандра Рыгоравіча, і... памыліўся. Прэзідэнт Беларусі сёмага лістапада не казаў пра нейкае "прымірэнне", а выказаўся па-рэвалюцыйнаму коратка і дакладна. Маўляў, я супраць звяржэння улады сілай, але вынікі Кастрычніка — самыя лепшыя. Відома, зараз, калі ва ўладзе "народны прэзідэнт", рэвалюцыя непатрэбна, а вось калі будзе інакш, можна будзе ўспомніць і каштоўны вопыт рэвалюцыянераў. Да таго ж, нашаму Аляксандру Рыгоравічу выступленне па ТВ — маштаб не той, ды і не ў навіну. Адкрыццё новых станцый метро — вось падарунак, дастойны прэзідэнта. Тым больш, што, акрамя фінансавай падтрымкі будаўнікам, Аляксандр Рыгоравіч аказаў ім яшчэ і маральную. Напрыклад, асабістым удзелам у будоўлі падчас суботніка. Калі некаму гэта нагадала савецкія часы — мэта дасягнута. Зласліўцам застаецца толькі ўспамінаць звольненых з працы метрапалітэнаўцаў і слухаць скаргі жыхароў некаторых дамоў, якім у сувязі з візітам галавы дзяржавы было забаронена выглядваць у вокны.

Расійскія тэлекампаніі спрабавалі рабіць выгляд, што Расія святкавала гадавіну рэвалюцыі з большым імпэтам, чым Беларусь. Прамыя ўключэнні з вуліц, фрагменты мітынгаў і — кволенькі рэпартаж з Мінска. Толькі сляпы мог не заўважыць у такіх паводзінах расійскіх тэлекампаній палітыку "пэўных колаў", накіраваную на прыманшэнне ролі нашай дзяржавы ў справе пабудовы сацыялізму ў адной асобна ўзятай краіне. Але праўду кажуць: звычка — другая натура. Паказваючы, як Расія святкуе "святую дату", несумленныя журналісты ўсё ж звярнулі ўвагу на ўсялякіх дэмакратаў і манархістаў, для якіх (які жах!) гэты дзень не "чырвоны", а жалобны. Іншая рэч — карцінка ад АТН: ніякіх праціўнікаў рэвалюцыі, усе шчаслівыя, аб чым і сведчыць "апытанне". У некага сумненні наконт прыцягальнасці ідэй Леніна—Сталіна для беларускай моладзі? Дарма! Таварыш В. Свістаноўская з БПСМ заявіла на мітынгу: "От имени всей молодежи утверждаю: революция живет в наших сердцах". Магчыма, нехта пры гэтым успомніць пра апазіцыю. Дык, як сказаў намеснік мінскага мэра В. Чыкін: "народ твердо поддерживает президента". Атрымліваецца, што той, хто не падтрымлівае, "не народ" увогуле. А да "ненарода" і адносіны павінны быць адпаведныя. І ў гэтым нашым уладам няма роўных. Так, пасля мітынгу былі арыштаваны "агенты Захаду", якія выдаюць сябе за камуністаў і нават аб'ядналіся ў партыю (ПКБ). Гэтыя людзі імкнуліся сапсаваць святочны настрой, крытыкуючы ў прыватных размовах кіраўніка краіны, трымалі транспарант з лозунгам "Долой диктатуру президента!" Акрамя таго, камуністы-апазіцыянеры былі заўважаны ў размовах з экстрэмістамі з "Маладога фронту". Напрыклад, актыўна абмяркоўвалася перспектыва стварэння парламенцкай рэспублікі. Гэта ж трэба, на святое (пасаду прэзідэнта) руку паднялі! Цікава было назіраць за іншымі маладымі людзьмі, якія з партрэтамі прэзідэнта крочылі на Кастрычніцкую плошчу. Дарэчы, сімвалічнае шэсце атрымалася: ад Незалежнасці да Кастрычніцкай. Хлопцы, як адзін, у скураных, стрыжаныя, усе з БПСМ. Дастаткова паглядзець на адваротны бок партрэтаў, каб даведацца пра месца вучобы патрыётаў — ПТВ N... Вось дзе рыхтуюць інтэлектуальную эліту.

Пры ўсім захапленні святам не магу ўстрымацца ад слоў крытыкі. Дазвольце спытаць, што гэта за канцэрт быў? Ні табе "вновь продолжается бой", ні "вихри враждебные веют над нами". Арганізатары маглі б, напрыклад, запрасіць выступіць мінскі гурт "Красные звезды". Іх рэпертуар вельмі падыходзіць для такога мерапрыемства, "Шагает ГУЛАГ", "Русский порядок" і, зразумела ж, "Империя". Замест гэтага танцавалі фальклорныя калектывы. Пагадзіцеся, неяк несур'ёзна. У такі дзень... І яшчэ. Пераапранутыя ў чырвонаармейцаў салдаты лепей выглядалі б, калі б вялі звязаных апазіцыянераў. Пасля іх можна было б "расстраляць" пад "бурные, продолжительные аплодисменты".

У астатнім усё было як мае быць. Рэвалюцыя працягваецца.

**Вальдэмар ДАБРЫЦКІ**

# Салідарнасць у імя свабоднай Беларусі

10 лістапада ў Мінску было абвешчана пра стварэнне новай грамадскай ініцыятывы Хартыя-97. Задачы руху не новыя — аднаўленне законнасці на Беларусі, на аснове Канстытуцыі 1994 года, забеспячэнне захоўвання ў Беларусі асноўных правоў чалавека. Аднак новае тое, што з ініцыятывай выступілі журналісты недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Вядомыя людзі — Павел Шарамет, Уладзімір Арлоў, Юры Хашчавацкі, Андрэй Саннікаў, Людміла Гразнова, Аляксандр Дабравольскі, Віктар Карніенка, Аляксандр Мілінкевіч на прэс-канферэнцыі тлумачылі задачы, пастаўленыя Хартыяй-97. Сто беларускіх дзеячаў культуры і навукі, прадстаўнікоў вядучых палітычных партый, прафесійных саюзаў і журналістаў паставілі подпісы пад тэкстам "Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, заяўляем, што дзеянні цяперашніх уладаў скіраваныя на знішчэнне правоў і свабод грамадзян. У краіне праігнараваны асноўны закон — Канстытуцыя". Славамір Адамовіч і Станіслаў Багданкевіч, Рыгор Барадулін і Лявон Баршчэўскі, Васіль Быкаў і Павел Казлоўскі, Васіль Шлындзікаў і Аляксандр Сасноў, Карлас Шэрман і Міхаіл Чыгір аб'ядналіся пад словамі: "У Беларусі разбураюцца нацыянальная культура і школа, выцясняецца беларуская мова. Напярэдадні XXI стагоддзя ў цэнтры Еўропы усталяваны дыктатарскі рэжым, 10 мільёнаў чалавек апынуліся пад уладаю свавольства. Мы, грамадзяне Беларусі, заяўляем сёння аб адказнасці за лёс краіны, за будучыню дзяцей". Спіс адкрыты, колькасць подпісаў павялічваецца з кожным днём. Менавіта беларускія журналісты, якія апошнім часам сталі ўяўляць сабой палітычную сілу і праз гэта адчулі прэсінг пераследу, зыніцыявалі стварэнне Хартыі-97. На праведзенай прэс-канферэнцыі прысутных цікавілі пытанні, ці не будзе непаразумення ў Хартыі-97 з іншымі партыямі і арганізацыямі, ці не змікшуецца актыўнасць руху з часам, як гэта здаралася з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі і рухамі. Намеснік старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Аляксандр Дабравольскі пракаментаваў заўвагі наконт магчымага прыярытэту пэўнай партыі ў дзейнасці Хартыі-97.

— Тут прыярытэтаў няма і быць не можа. Хартыя-97 якраз скіраваная на тое, каб зняць усе пытанні кшталту: нехта больш прадстаўлены, нехта менш. Кожны новы подпіс будзе такі ж важкі, як і папярэдні. Тое, што такія пытанні ёсць, сведчыць пра тое, што дзейнасць Хартыі-97 мусіць іх зняць. У Хартыі няма кіраўніцтва і ўлады, а дамінуе ініцыятыва і жаданне працаваць разам. Галоўнае, каб людзі адчулі, што іх многа і паверылі ў сваю сілу.

Кожны беларус, для якога вызначальным ідэалы дэмакратыі, можа далучыцца да Хартыі-97, даслаць свой подпіс у рэдакцыі дэмакратычных газет. Змагацца за дэмакратыю, за канкрэтных пацярпелых, палітыкаў і журналістаў — гэта значыць змагацца за сябе. У гэтай краіне кожны можа стаць наступным.

**Вольга КАРАТКЕВІЧ**

АНОНС

# "Восень" адкрываюць маладыя

20 лістапада пачынаецца традыцыйны і папулярны сярод меламанаў фестываль "Беларуская музычная восень", прысвечаны 60-годдзю рэспубліканскай філармоніі. У гэты вечар прагучыць адзін з самых яркіх шэдэўраў сусветнай музычнай скарбніцы — 9 сімфонія Людвіга ван Бетховена. Выканаўцы — сімфанічны аркестр і хор Беларускай акадэміі музыкі. У якасці салістаў выступяць былыя выпускнікі гэтай навучальнай установы Тацццяна Пятрова, Таццяна Варапай, Рыгор Палішчук і Алег Гардынец. За дырыжорскім пультам — рэктар Акадэміі прафесар Міхаіл Казінец.

Маладым музыкантам невыпадкова дадзены гонар адкрываць такі прэстыжны фестываль. Сімфанічны аркестр, які завецца "Маладая Беларусь", ужо мае аўтарытэт не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Ён гастраляваў у Італіі, Францыі, Германіі. Спецыяльна для яго ў Францыі быў арганізаваны фестываль "Лета вялікага саду", падчас якога нашы музыканты выступалі ў 29 гарадах і запісалі лазерны дыск.

Як паведамляў "ЛіМ", сёлета ў жніўні аркестранты пабывалі ў нямецкім горадзе Байройце, дзе ўпершыню прадстаўлялі Беларусь на прэстыжным Вагнераўскім фестывалі. Там нашы музыканты не толькі далі 5 сольных канцэртаў з разнастайнай праграмай — Канцэртам для дзвюх скрыпак І. С. Баха, "Струннай серэнадай" П. Чайкоўскага, "Канцэрціна-брока" беларускага кампазітара А. Літвіноўскага. Аркестрантам-струннікам пашчасціла ўдзельнічаць у выступленнях Еўрапейскага маладзёжнага аркестра, якім дырыжыраваў вядомы нямецкі музыкант М. Піёле.

Майстэрства хору Беларускай акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік і хормайстар прафесар Віктар Роўда), як вядома, сёлета было таксама адзначана вышэйшымі ўзнагародамі на прэстыжных міжнародных конкурсах у Германіі ды Польшчы.

Чакаем, што маладыя музыканты, якія пад кіраўніцтвам маэстра М. Казінца звярнуліся да даволі складанага твора, парадуюць слухачоў яго цікавай інтэрпрэтацыяй і гэта будзе яскравы пачатак юбілейнай "Беларускай музычнай восені".

**Эленара СКУРАТАВА**

ЮБІЛЕІ

# Сустрэча з юнацтвам



Мінскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў споўнілася пяцьдзесят гадоў. З нагоды юбілею адбыўся ўрачысты сход, у праграме якога была сустрэча з першакурснікамі 1947 года, з выпускнікамі вучэльні ўсіх гадоў. Вучэльню віншавалі культурніцкія арганізацыі і установы. З 31 кастрычніка па 10 лістапада ў Палацы мастацтваў працавала юбілейная выстава. Арганізатары выставы ўзялі за ўзор экспазіцыю, якую ладзіла да свайго юбілею ў тым жа палацы Беларуская акадэмія мастацтваў. Былі прадстаўлены як дыпломныя работы розных гадоў, так і матэрыялы метадычнага фонду — вучэбныя малюнкі і жывапіс.

На жаль, трэба адзначыць, што выстава, якая магла б стаць адной з галоўных мастацкіх падзей года, ёю не сталася. Рэч у тым, што Мінская мастацкая вучэльня — гэта цэлая эпоха ў мастацкай адукацыі Беларусі. Вучэльня — старэйшая за мастацкую акадэмію. Для многіх вядомых сёння нашых мастакоў яна была першай прыступкай творчай кар'еры. Было б надзвычай цікава ўбачыць, як калісь пачыналі тыя, чые імёны сёння на слыху. Дыпломныя работы вучэльні адлюстроўваюць эстэтычныя і ідэалагічныя стэрэатыпы часу, бадай, больш выразна, чым работы студэнтаў акадэміі. Сапраўдная рэтраспектыва зробленага ў вучэльні за пяцьдзесят гадоў стала б адкрыццём і для гледачоў, і для мастацтвазнаўцаў. Аднак, на жаль, экспазіцыя атрымалася бедная. Тлумачэнне простае: не захавалася, бо захаваць магчымасці не было. Свой уласны будынак вучэльня мае адносна нядаўна, а раней шмат гадоў арандавала памяшканне ў оперным тэатры, архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, політэхнікуме. Штосьці згубілася за час пераездаў, штосьці не палічылі патрэбным захаваць.

Але і тое, што мела магчымасць пабачыць мінская публіка, не пакінула гледачоў абыякавымі. Асабліва тых, хто прыйшоў на выставу — на сустрэчу са сваёй маладосцю, юнацтвам.

Зрэшты, пяцьдзесят гадоў Мінскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава — гэта не толькі палотны, скульптуры, графічныя аркушы, габелены і іншыя дэкаратыўна-ўжытковыя творы, не толькі праекты мастацкага афармлення — рэалізаваныя і тыя, што засталіся на паперы. Гэта найперш людзі, выкладчыкі і выхаванцы, якія не адно дзесяцігоддзе працуюць на беларускую культуру. У гэтым сэнсе рэтраспектыва міжволі пераходзіць у сённяшні дзень. Ды, здаецца, і перспектыва ёсць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках: падчас адкрыцця выставы. Фрагмент экспазіцыі.*



ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Вартае відэастужак

Фраза наконт вечнасці твораў мастацтва падаецца сумніўнай, калі задумваешся пра лёс рэжысёрскіх шэдэўраў, акцёрскіх адкрыццяў... Вядома, з дапамогаю відэатэхнікі можна сёе-тое захаваць. Але тэхніка ёсць тэхніка: рэч капрызлівая і не кожнаму даступная. Не параўнаць з кнігай! Кнігу і захоўваць лацвей, і дачыняцца да яе зручней. Вось і новую прыгожую кнігу "Валянцін Елізар'еў", выдадзеную акурат да юбілею знанага балетмайстра, гартаеш — нібы глядзіш маляўнічую густоўную відэастужку, на якой "чытаецца" біяграфія Майстра, яго творчы свет, жыццё Акадэмічнага тэатра балета Беларусі, які ўжо без малога чвэрць стагоддзя спакроўлены з лёсам Елізар'ева.



Прэзентацыя новага выдання адбылася ў Дзяржаўнай нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — з нагоды адкрыцця выстаўкі "Душой напоўнены палёт", на якой прадстаўлены працы мастацтвазнаўцаў і крытыкаў, афішы і рэкламныя праспекты, відэакасеты і часопісныя публікацыі, спрычыненыя да творчасці юбіляра.

Аўтар і ўкладальнік новай прыгожай кнігі-альбома Таццяна Мушынская распавяла пра досыць нялёгкі шлях гэтага адмысловага твора паліграфічнага мастацтва да чытачоў. Разам з мастаком-дызайнерам А. Гапіенкам яна ў рэкордны для айчынных варункаў тэрмін зрабіла ўсё, каб 18 друкаваных аркушаў (з іх 6 займае тэкст на трох мовах, 12 — каляровыя і чорна-белыя фота), прайшоўшы праз выдавецтва "Беларусь" і Мінскую фабрыку каляровага друку, ператварыліся ўрэшце ў "энцыклапедычна ілюстраваную" манаграфію, якой дагэтуль не спадобіўся ніводны дзеяч беларускага мастацтва.

Біяграфія, летапіс творчасці Майстра, хроніка гастроляў нашай балетнай трупы —краіны, гарады, даты, спектаклі... Навадрук— яшчэ і адзіны такога кшталту даведнік!

Падчас урачыстага сходу ў бібліятэцы выступілі гасцінныя гаспадыні "нацыяналкі" Галіна Алейнік ды Вікторыя Карсека, вядомыя мастацтвазнаўцы Юлія Чурко і Ефрасіння Бондарава, музычны каментатар БТ Элеанора Язерская ды віноўнік імпрэзы — народны артыст СССР Валянцін Елізар'еў. І прэзентацыя ператварылася ў адмысловы эскіз да роздуму пра стасункі Мастака і Крытыка, пра ролю друкаванага слова ў творчым жыцці, пра дыялектычную ўзаемазалежнасць тых, пра каго пішуць, і тых, хто піша...

Спадар Елізар'еў, якому пашчасціла павандраваць па свеце і сабраць багатую хатнюю калекцыю рэдкіх выданняў пра мастацтва ды гісторыю культуры, паабяцаў дублікаты асобных каштоўных кніг прэзентаваць Нацыянальнай бібліятэцы, якая, дарэчы, зусім нядаўна справіла свой юбілей.

А што да новага выдання... Яно ёсць у продажы, але ягоны кошт спрацоўвае супраць маёй паспешлівай высновы наконт даступнасці твораў кніжнага мастацтва. На жаль, каб набыць гэты захапляюча прыгожы і змястоўны альбом (ён каштуе 500 тысяч рублёў), аднаго захаплення — мала...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота К. Дробава*

# Анёльскае суіснаванне Паэзіі і Музыкі

Здавалася б, апошнім часам з-за не надта спрыяльных сацыяльных і палітычных умоў у нашай краіне павінна была б зменшыцца колькасць культурніцкіх мерапрыемстваў. Аднак назіраецца зусім адваротнае — праводзяцца шыкоўныя святкаванні дажынак, юбілеяў гарадоў, розныя рэспубліканскія і міжнародныя тэатральныя, музычныя, кінафестывалі, мастацкія выставы... Адным словам, сумаваць не даводзіцца.



У мінулую суботу ў Белдзяржфілармоніі адбылася аўтарская вечарына паэта Леаніда Дранько-Майсюка "Музыка і астры" — у прадстаўленні Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга. Зала была перапоўнена.

Былі пацалункі, падарункі і кветкі, кветкі, кветкі... І гучала музыка, і гучалі песні... І настрой у самога паэта быў самы цудоўны, бо ён убачыў і адчуў, што ён сапраўды ёсць і ёсць людзі, якія любяць яго паэзію.

У бліжэйшы час Беларускае тэлебачанне плануе паказаць аўтарскую вечарыну Л. Дранько-Майсюка "Музыка і астры", каб кожны з нас змог адчуць, пачуць і ўбачыць анёльскае суіснаванне Паэзіі і Музыкі.

*Фота Кастуся ДРОБАВА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Настальгія... па песні

Вось ужо трэці раз на пачатку лістапада Магілёў становіцца сталіцай міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер". Зноў кожны вечар на працягу тыдня гучалі яго знакамітыя пазыўныя: "Ландыши, ландыши, светлого мая привет"... І ў гэтыя пахмурныя дні позняй восені "прывітанне светлага мая" ў абліччы дарагіх сэрцу песень мінулых гадоў саграваала людскія душы.

Сёлетнія фестывальныя мерапрыемствы "распаўсюдзіліся" на многія гарады і мястэчкі Магілёўшчыны. Асноўныя канцэрты прайшлі ў Магілёве і ў Мінску. Гэтым разам гасцямі "Залатога шлягера" былі І. Суручану, Р. Ібрагімаў, Г. Веліканава, М. Гнацюк, В. Мулерман, М. Пахоменка, А. Вескі, Ю. Багацікаў, кампазітары А. Колкер, Л. Лядава, Д. Тухманаў, ансамблі "Самоцветы", "Золотое кольцо". Беларусь прадстаўлялі Н. Багуслаўская, В. Вуячыч, І. Лучанак, І. Капланаў, Т. Раеўская, Э. Міцуль. Тое, што "Залаты шлягер" сапраўды ўпэўнена выходзіць на міжнародную арэну, пацвердзіў факт удзелу ў фестывалі італьянскага спевака Р. Ларэцi. Многія слухачы памятаюць боскі голас італьянскага хлапчука, які ў 60-я гады пакарыў свет чысцінёй і прагажосцю спеваў. І вось Ларэцi прыехаў на Беларусь, удзельнічаў у гала-канцэртах фестывалю, у працы журы конкурсу маладых выканаўцаў, меў у Магілёве сольнае выступленне, якое запомнілася публіцы дзівоснай атмасферай цеплыні і шчырасці.

У якасці ганаровых гасцей у Магілёве былі і прадстаўнікі вядомых фестываляў з Расіі, Казахстана, Балгарыі, Польшчы, Літвы. У прыватнасці, прэзідэнт еўра-азіяцкай асацыяцыі стваральнікаў фестываляў, прэзідэнт "Славянскага базара" С. Віннікаў паведаміў, што магілёўскі "Залаты шлягер" уключаны ў групу такіх вядомых фестываляў, як "Залаты арфей", "Залаты алень", "Голас Азіі", "Славянскі базар", і пажадаў, "каб ніколі не паблякла золата на саксафоне "Залатога шлягера", эмблеме фестывалю.

На сёлетнім "Залатым шлягеры" праходзіў і другі міжнародны конкурс маладых выканаўцаў. У ім бралі ўдзел 15 спевакоў з Беларусі, Расіі, Малдовы, Грузіі, Літвы, Казахстана, Азербайджана, Польшчы, Балгарыі, Ізраіля. Іх выступленні ацэньвала журы ў складзе Ю. Багацікава, М. Пахоменкі, Н. Багуслаўскай, М. Фінберга, І. Лучанка, В. Вуячыча, А. Колкера, Л. Лядавай, Д. Тухманава, Р. Ларэцi. Старшынёй журы зноў, як і летась, была народная артыстка Расіі М. Міянсарава.

Конкурс сабраў таленавітых спевакоў з моцнымі галасамі, добрай прафесійнай падрыхтоўкай, многія ўдзельнікі ўжо здабылі лаўрэацкія званні на прэстыжных нацыянальных і міжнародных конкурсах. У Магілёве амаль усе выступілі роўна, і журы было вельмі складана вызначыць пераможцаў. Пасля гарачых спрэчак лаўрэацкія званні былі размеркаваны наступным чынам: В. Мельнікава і П. Усовіч (Беларусь), Н. Чабану (Малдова), А. Пільвелітэ (Літва) сталі лаўрэатамі 3-яй прэміі, на 2-м месцы — Б. Фельдман (Ізраіль), І. Левіна (Расія), А. Александрова (Казахстан); 1-ую прэмію атрымала прадстаўніца Грузіі М. Каркарашвілі. "Дождж узнагарод" праліўся на салістку Магілёўскай абласной філармоніі І. Абалян. Яна стала ўладальніцай Гран-пры "Залатога шлягера-97", прыза сімпатый гледачоў і разам з І. Левінай, А. Пільвелітэ ды М. Каркарашвілі атрымала спецыяльную прэмію тэлекампаніі "Свой круг" пад назвай "Шанц". Гэтая прэмія дае права яе ўладальніку на бясплатнае стварэнне з дапамогай кампаніі відэавізітоўкі спевака.

"Залаты шлягер" жыве і развіваецца", — адзначыў дырэктар Магілёўскай абласной філармоніі кампазітар У. Браілоўскі. Адметнай рысай сёлетняга фестывалю стаўся ўдзел у ім дзіцячых калектываў з Расіі ды Беларусі і вечар аўтарскай песні памяці Б. Акуджавы. Выступленне вядомых бардаў С. Нікіціна, А. Баля, братоў Мішчукоў, А. Казанцавай, А. Суханава, У. Кадэнкі і спевака Л. Барашкава вельмі арганічна ўвайшло ў агульную атмасферу "настальгіі па Сапраўднаму", якой поўніцца "Залаты шлягер". У яго стваральнікаў ёсць яшчэ шмат цікавых ідэй, планаў абнаўлення фестывалю, а гэта дае падставы на новыя незабыўныя сустрэчы.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

## Адрас канферэнцыі — Узда

**На канец гэтага года — 27 снежня — прыпадае 150-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага і ўрача, вынаходца і філантропа Якуба Наркевіча-Ёдкі.**

**З гэтай нагоды раённыя ўлады Уздзеншчыны ладзяць міжнародную навуковую канферэнцыю "Якуб Наркевіч-Ёдка: вяртанне імя", якая мае адбыцца ва Уздзе 12 снежня г.г. Мяркуецца ўдзел у ёй навукоўцаў і нашчадкаў вучонага як з блізкага, так і з далёкага замежжа, а таксама шырокага кола прадстаўнікоў грамадскасці, даследчыкаў, краязнаўцаў.**

**Зараз выйшаў з друку прысвечаны вучонаму пяты нумар часопіса "Беларуская Мінуўшчына". Пра складаны шлях самасцвярджэння нашага даследчыка расказваецца ў падрыхтаванай да канферэнцыі брашуры "Парадоксы "электрычнага чалавека".**

**Матэрыялы канферэнцыі падсумуюць вынікі першага, 25-гадовага, этапу адраджэння імя выдатнага земляка і вызначаць шляхі і накірункі далейшага паглыблення ў сутнасць яго навуковай спадчыны. Асэнсаванне асобы навукоўца зараз скіравана яшчэ і на выяўленне яе як выдатнай культурнай з'явы Міншчыны канца мінулага — пачатку бягучага стагоддзя.**

**Запрашаем да ўдзелу ў гэтай канферэнцыі!**

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ**

## Каб помнілі...

**Мінскі мастак-манументаліст Уладзімір Крываблоцкі — часты госць у Азарычах Калінкавіцкага раёна. Ён — аўтар будучай карціны "Дарога смерці", у якой вырашыў увекавечыць памяць загінуўшых тут дзевяці тысяч вязняў былога канцлагера.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## На фальклорнай ніве

**Сярод тых, хто даследаваў вуснапаэтычную творчасць беларусаў, — і Аляксандр Разенфельд, які нарадзіўся ў Мінску 125 гадоў назад (год смерці Аляксандра Аляксандравіча невядомы). Скончыў Пецярбургскі універсітэт і з 1898 года працаваў у ім, а з 1910 года быў прыват-дацэнтам. У 1912—1916 гадах А. Разенфельд з'яўляўся кіраўніком Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў гэтай вышэйшай навучальнай установы. Беларускі фальклор прыцягнуў яго ўвагу ўпершыню ў 1903 годзе, а ўжо праз год былі апублікаваны "Беларускія народныя песні", якія Аляксандр Аляксандравіч запісаў у ваколіцах Радашковіч, у Сёмкавым Гарадку, Рубяжэвічах і Астрашыцкім Гарадку Мінскага павета, а паасобныя — у Барысаўскім і Рэчыцкім паветах. У гэтым зборніку А. Разенфельда найперш вылучаюцца ўзоры абрадавай паэзіі беларусаў — купальска-пятроўскія, жніўныя і восеньскія песні. Арыгінальная і вясельная паэзія, пазаабрадавая лірыка, балады. Важна і тое, што пры запісе гэтых твораў А. Разенфельд пастараўся як мага дакладней перадаць іх дыялектна-моўныя асаблівасці. Напісаў ён і фальклорна-этнаграфічны эцюд пад назвай "З жыцця беларуса", у якім разглядае зажынкавыя і дажынкавыя абрады і песні.**

ВАРУНКІ

# Паразумецца няцяжка. Пры жаданні...

Мінскі Дом літаратара болей не належыць Саюзу пісьменнікаў. Цяпер гэта маёмасць Упраўлення справамі прэзідэнта. Падобная сітуацыя — і ў Гародні. Там абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў улады высяляюць з памяшкання, дзе філія СП месцілася з 60-х гадоў. Праўда, пакуль не надта зразумела, хто будзе новым гаспадаром былога пісьменніцкага памяшкання.

Перадзел маёмасці — звычайная справа на посткамуністычнай прасторы. Асабліва гэта датычыць аб'ектаў культурніцкага прызначэння. Культура ў нашай краіне заўжды была падчаркай дзяржавы, і сёння культурніцкія ўстановы часта проста не ў стане самі ўтрымліваць аб'екты, што ім належаць. Так што ў дзяржавы заўжды ёсць магчымасць, спасылаючыся на "нерэнтабельнасць", змяніць гаспадара.

Калі ў Мінску ў літаратараў забіралі іхні Дом, дык супакойвалі, што цяпер, пры новым гаспадары, нарэшце будзе зроблены ў доме рамонт, ды і пра высяленне гаворкі пакуль не ідзе. У Гародні абяцаюць іншае памяшканне, якое нібыта не горшае за адабранае, а ў забраным будзе зроблены музей Элізы Ажэшкі. Калі паверыць гарадзенскай уладзе, дык атрымліваецца, што няма чаго хваляваца, няма нагоды вэрхал уздымаць. Аднак паспрабуем "раскруціць" гісторыю пытання...

Гарадзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў месціцца ў цэнтральнай частцы горада, у так званым "Доме Элізы Ажэшкі". Так званым, бо дом не сапраўдны. Гэта муляж накшталт "дома першага з'езда РСДРП", толькі выкананы менш прафесійна. Ад сапраўднага дома Ажэшкі тут захавалася толькі некалькі фрагментаў драўлянай разьбы. Пісьменніцкі саюз займае ў доме два невялікія пакойчыкі, а на асноўнай плошчы — абласная бібліятэка. Муляж дома Ажэшкі ўключаны ў турысцкія маршруты, і калі ў Гародню прыязджаюць польскія турысты, ім гэты будынак прадстаўляюць як "дом польскі".

Тры гады назад, у час наведвання музея Максіма Багдановіча, спадарыня Кліменка, загадчыца аддзела культуры Гарадзенскага гарвыканкама, выказалася ў тым сэнсе, што "такі харошы музей Багдановіча, трэба такі ж і Ажэшцы". Ідэя для Гародні па тым часе не новая, бо пра паўнавартасны музей Ажэшкі гарадзенскія літаратары гаварылі даўно, а ўлада ад іх адмахвалася: маўляў, на музей Багдановіча грошай не хапае, а тут яшчэ Ажэшка...

Годам пазней гэтае пытанне ўжо падымалася на нарадзе ў гарсавеце, дзе на роўных разам з мясцовымі чыноўнікамі прыстунічаў вядомы нашым чытачам спадар Малевіч з Гарадзенскага "саюза палякаў на Беларусі". Калі спадарыня Бічэль-Загнетава запытала, што тут робіць Малевіч, ёй адказалі: "Мы ствараем грамадзянскі камітэт па кантролі і дапамозе ў стварэнні музея Ажэшкі". "Кантралёры, бачу, ужо ёсць, а хто працаваць будзе?" — запытала спадарыня Данута. Адказу не было.

Увесь 1995 год у Гародні ішлі сякія-такія размовы пра музей Ажэшкі, але канкрэтыкі ніякай. У 1996 годзе пра музей загаварыла ўжо абласное начальства. А ў 1997-м новы мэр горада спадар Пашкевіч у інтэрв'ю "Гродненской правде" сцвярджаў, што музей Ажэшкі будзе. Гэта, маўляў, пытанне вырашанае. Пасля чаго гарадзенскіх літаратараў пачалі пры нагодзе і без яе пытаць: "Вас там закрываюць ці не?", маючы на ўвазе высяленне філіі СП з "Дома Ажэшкі".

І сёлета, 25 сакавіка, якраз у дзень свята, з уладных структур патэлефанавалі ў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў. Трубку падняў Алесь Чобат. "Алесь, вы за тыдзень павінны пераехаць. Да 1 красавіка мы зробім і адчынім музей Ажэшкі". — "Жарт!" — "Ужо ёсць рашэнне". — "Дзе яно?" — "Будзе, будзе..."

Зрабіць за тыдзень музей з нічога — немагчыма. За такі тэрмін можна хіба што шыльду новую намаляваць. Спачатку распрацоўваецца канцэпцыя, праводзяцца навуковыя доследы, ствараецца праект, вызначаецца першачарговае. І ўжо пасля гэтага можна пачынаць "рабіць музей" — у сэнсе рэалізоўваць праект.

Да моманту, пакуль у "Дом Ажэшкі" не прыйдуць рэстаўратары і будаўнікі, няма ніякай патрэбы высяляць адтуль пісьменнікаў і бібліятэку. Канцэпцыі, тым болей праектаў яшчэ і блізка няма, няма нават адпаведнай пастановы аб стварэнні музея, але — "Тыдзень на пераезд. Вызваляйце памяшканне".

Потым тэрмін "перасялення" вызначылі да першага ліпеня, але сутнасці гэта не мяняе.

Перасяліцца пісьменнікам прапануюць у будынак непадалёк. Дакладней, у падвал таго будынка, адкуль у літаральным сэнсе гэтага слова выплывае ўжо, здаецца, восьмы арандатар. Бо падвал рэгулярна затапляецца. Зразумела, што гарадзенскія літаратары не лічаць такі абмен эквівалентным і стаяць за офіс у "Доме Ажэшкі".

Міжволі прыходзіш да высновы, што ўсе гэтыя гульні ў стварэнне музея распачаты з адзінай мэтай — пазбавіць гарадзенскую філію Саюза пісьменнікаў зручнага месцазнаходжання. Але "святое месца" пуставаць не будзе. Хто ж засеціцца ў вызваленыя пакоі? Маючы пэўнае ўяўленне пра стасункі гарадскіх уладаў са "Звёнзкам палякаў", я прагназую, што ў "Доме Ажэшкі" справіць улазіны прыгаданы раней сп. Малевіч са сваім "грамадзянскім камітэтам", які заклікаыны нібыта дапамагаць і кантраляваць у справе стварэння музея. Такім чынам, "Дом Ажэшкі" стане сапраўды "домам польскім", і неўзабаве над ім з'явіцца дзяржаўны сцяг Польшчы. А "Звёнзак палякаў" прыдбае ў дадатак да свайго будынка на вуліцы Дзяржынскага вельмі важную пляцоўку ў цэнтры горада. А ўжо пасля гэтага "Дом Ажэшкі" можна лічыць страчаным для культуры. Прынамсі, для культуры беларускай.

Ці разумее гэта мясцовая ўлада? Мабыць, разумее. Але гарадзенская ўлада жыве не з ласкі мінскага кіраўніцтва, а з таго, што мяжа — побач. Варшава для гарадзенскай улады рэалія больш сур'ёзная, чым Мінск. А аднабаковая арыентацыя прэзідэнта РБ на ўсход, у той час як гарадзенскі чыноўнік усё мае з захаду, спрыяе пэўнай "аўтанамізацыі" мыслення ў мясцовага чынавенства. Было б дзіўна, каб гэтую акалічнасць не скарыстоўвала Польшча і польская крэатура на Гарадзеншчыне.

Калі я пабачыў афіцыйную паперу Гарадзенскага гарвыканкама за подпісам мэра сп. Пашкевіча, адрасаваную старшыні аблвыканкама сп. Дубко, начальніку абласнога ўпраўлення культуры сп. Брыкачу і намесніку старшыні Саюза палякаў сп. Малевічу, пра тое, як вырашаецца пытанне з высяленнем абласнога аддзялення СП, я падумаў: вось ужо Тадэвуш Малевіч, так бы мовіць, "віцэ-паляк", роўны Дубко, губернатару. А каму ж тады роўны сп. Гавін, старшыня "Звёнзку палякаў"?..

Дастаткова пачытаць мясцовую польскую прэсу, каб зразумець, убачыць, як тым, хто лічыць сябе палякам, даводзіцца думка, што менавіта яны ў Беларусі — эліта, што яны павінны тут панаваць. Нават назва "Саюз палякаў на Беларусі" гаворыць сама за сябе. Не "беларускія палякі", не "палякі Беларусі", але — "палякі на Беларусі". Гэткае дыпламатычнае прадстаўніцтва Польшчы ў РБ...

Канешне ж, Польшча "на крэсы" ўжо ніколі не вернецца. Але ваяўнічыя настроі, ідэя "Польшчы ад мора да мора" заўжды будуць уласцівыя пэўнай частцы польскага грамадства. Гэтаксама і ў Расіі палітык, які дэманстратыўна не прызнае паслявіскулёўскіх рэалій, заўжды сарве апладысменты. І, на жаль, ад гэтай палітычнай кантрабанды нас не выратуе калючы дрот на дзяржаўнай мяжы. Змагацца з гэтым можна толькі праз стварэнне ўласнай нацыянальнай ідэалогіі, праз будаўніцтва сваёй дзяржавы.

У гэтым сэнсе было б цалкам лагічна звярнуць увагу на групоўкі, якія адкрыта ці ўскосна ігнаруюць Беларускую дзяржаву і яе інтарэсы.

Было б абсалютным абсурдам забыцца на Польшчу, выключыць з нашага культурнага абароту польскае мастацтва. У 70-я — пачатку 80-х гадоў Польшча, трэба прызнацца, адыграла выключную ролю ў беларускай культуры. На Захад нас не пускалі. Вось Польшча і была пасрэднікам паміж Захадам і Беларуссю. Кнігі па мастацтве, перакладзеныя на польскую мову з нямецкай, ангельскай, французскай, польскае кіно, польскі плакат, манументальная пластыка Польшчы моцна паўплывалі на тых, каго сёння называюць сярэднім пакаленнем беларускай творчай інтэлігенцыі. Таму я з задавальненнем адзначаю кожны факт культурных стасункаў нашых краін. Таму мне не падабаецца, калі мясцовыя "палякі" псуюць мне вобраз Польшчы, выторкваючы ў беларуска-польскіх стасунках АКаўшчыну і пілсудчыну, спрабуючы манапалізаваць касцёл і запісаць у "польскасць" усё, што ёсць вартага на гэтай зямлі.

Так, у Гародні неабходны музей Элізы Ажэшкі, і рабіць яго трэба разам беларусам і палякам. Але гэты музей не павінен быць "польскім домам". Як не можа быць "польскім домам" Дом Божы — касцёл.

Зрэшты, не так ужо і цяжка паразумецца...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

РЭХА

# Не трэба ставіць пад сумненне

Вопыт сведчыць, што зусім беспамылковых выданняў амаль не існуе. З памылкамі ў перыядычных выданнях чытачы ўжо зжыліся-звыкліся. У энцыклапедычных жа выданнях недакладнасці, хібы і памылкі недаравальныя, бо па іх інфармацыя часта вывяраецца як па крыніцах апошняй інстанцыі дакладнасці. Хоць, што граха таіць, зрэдку трапляюцца яны і тут. У шматтомных энцыклапедыях існуе такая практыка, што пра кожную заўважаную ў выданні супрацоўнікамі або чытачамі памылку абавязкова даецца папраўка ў форме ўклейкі ў наступных тамах. Таму мы з удзячнасцю прымаем заўвагі, адкуль бы яны ні паступалі і якімі б прыкрымі для нас яны ні былі. З меншай удзячнасцю ўспрымаюцца не заўсёды кампетэнтныя разважанні, пажаданні і крытыка, якая мяжуе з крытыканствам. Асобныя ж рэцэнзенты, на жаль, да ліку памылак і недакладнасцей часам адносяць зусім дакладныя звесткі і правільныя сцвярджэнні.

Так, рэцэнзент першых тамоў Беларускай Энцыклапедыі А. Перасятнік у артыкуле "Наколькі поўнае і ці дакладнае?", змешчаным у паважаным штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", папракае выданне за рознае напісанне прозвішчаў "Батвіннік" і "Бацвіннік", за рознае напісанне імёнаў па бацьку ў мастакоў братоў Басалыгаў (адзін Міхаіл Самуілавіч, другі Уладзімір Самойлавіч) і інш. Але ж гэта так на самай справе. Усе гэтыя паважаныя дзеячы маюць пашпарты, у якіх напісаны так іх прозвішчы, імёны і імёны па бацьку. На кожнага жывога дзеяча, звесткі пра якога змяшчаюцца ў энцыклапедыі, заводзіцца спецыяльная картка, кожны з іх візуе напісаны пра яго артыкул. Дарэчы, гэтак іх прозвішчы, імёны і імёны па бацьку падаваліся і ў папярэдніх выданнях (напрыклад, у Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, т. I, стар. 310). У нашых і іншых энцыклапедычных выданнях ёсць нямала выпадкаў, калі бацькі і дзеці, браты, сёстры, муж і жонка пішуць свае прозвішчы па-рознаму. Жыццё заўсёды багацейшае за нарматыўныя каноны, і з гэтым трэба лічыцца. На заўвагу гэтага аўтара пра тое, што ў артыкуле "Атлас" указаны далёка не ўсе значэнні гэтага слова, адказ адназначны — энцыклапедыя не павінна падмяняць слоўнікі тлумачальныя, замежных слоў і іншыя. Яна даволі поўна асвятляе асноўныя паняцці: Атлас (горную сістэму, т.2, стар.73), Атлас (шаўковую тканіну, стар.74) і Атлас геаграфічны (стар.74). Падобнае можна сказаць і ў адказ на прапанову дадаткова да артыкула Бергамотная (сорт грушы) уключыць тры значэнні паняцця Бергамот і паняцце Бергамотны алей. Адчуваецца, што гэтыя звесткі рэцэнзент добрасумленна запазычыў з Большой Советской Энциклопедии.

На разважанні рэцэнзента пра блытаніну ў артыкуле Авіньёнскі палон па́паў, дзе словы "вавілонскі полон" ён успрыняў як поўны сінонім, як другую назву артыкула, варта звярнуць увагу на тое, што словы гэтыя ўзяты ў двукоссе. А словы, узятыя ў двукоссе, павінны чытацца як "так званы вавілонскі палон". Пра тое, што гэта розныя з'явы і па сутнасці і па часе, відаць з артыкула Вавілонскі палон (т. 3, стар. 426). Таму не варта распаляцца і супастаўляць, калі жыў вавілонскі правіцель Навуходанасар II і калі рымскія папы былі зняволены ў сваёй рэзідэнцыі ў Авіньёне.

У выніку у трохкалоннай рэцэнзіі мы прымаем толькі адну памылку — дату смерці Багданава С. І. Праўда, мы і самі яе заўважылі і падрыхтавалі папраўку, але дзякуем за ўважлівае прачытанне. Крыўдна, што з-за дробязі рэцэнзент робіць занадта жорсткі і катэгарычны вывад — "ставіць пад сумненне фундаментальнасць дадзенага выдання і магчымасць рабіць на яго спасылкі". Гэта падобна таму, калі з-за плямкі на панелі прыгожага будынка ставяцца пад сумненне яго архітэктурныя вартасці. Давайце будзем узаемна карэктнымі.

**Іосіф ХАЎРАТОВІЧ, кандыдат гістарычных навук (БелЭН)**

ШЛЯХІ

# Нацыяналізм

Леанід ЛЫЧ

## 1. І ТУТ У НАС, ЯК НЕ Ў ЛЮДЗЕЙ

Беларусы адносяцца да той жменькі еўрапейскіх народаў, якім па самых розных прычынах не ўдалося да канца прайсці стадыю нацыяналізму. Здавалася б, толькі радавацца трэба, што не давялося яго перажыць. Але радасць адразу знікае, як падумаеш, што мы, будучы ўжо і не такім малым па колькасці дый не абдзеленым ад прыроды розумам, працавітым народам, усё ж на працягу стагоддзяў, у адрозненне ад тых, хто да дна асушыў поўную чашу нацыяналізму, заставаліся без уласнай дзяржавы, былі пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць сваю родную мову ў грамадскім жыцці і вучыць дзетак на ёй, не мелі пасля гвалтоўнага скасавання ў 1839 г. духоўнымі і свецкімі ўладамі Расійскай імперыі Берасцейскай царкоўнай уніі сваёй уласнай, незалежнай ад Масквы царквы, дык усялякая радасць прападае ад таго, што нас абмінуў нацыяналізм.

А прыгледзьцеся, якая хліпенькая ў беларусаў нацыянальная самасвядомасць ! Мы перыядычна чуем не толькі ў грамадскіх месцах, але і па радыё здзеклівыя словы ў адрас нашага дзяржаўнага суверэнітэту, роднай мовы, але вельмі мала ў каго з-за страты нацыянальнага гонару гэта выклікае пратэст. Па-сур'ёзнаму ён не праявіўся, калі пасля майскага рэферэндуму 1995 г. з ініцыятывы дзяржаўных органаў народнай асветы пачалі выкідаць, трушчыць першыя падваліны нацыянальнай адукацыі. Жыве сабе гэты рахманы беларускі народ у сярэдзіне Еўропы і нават сораму не мае, што да сённяшняга дня не стварыў у сваіх гарадах аніводнай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы на роднай мове. І ўсё гэта ад таго, што ён, не ў прыклад абсалютнай большасці еўрапейскіх народаў, не прайшоў сапраўднай школы нацыяналізму. Былі спробы выхаваць у беларусаў пачуццё нацыянальнага гонару, ды не ўдалося іх здзейсніць.

У сваім нацыянальным жыцці мы празмерна шмат зведалі такога, што не садзейнічала кансалідацыі народа. Ад часоў Рэчы Паспалітай у нас вельмі мала было палітыкаў, інтэлігентных асобаў, якія вучылі б народ ні ў якіх выпадках не цурацца свайго, не ахвяроўваць ім на карысць чужога. Наадварот, варта было толькі каму-небудзь з нашага элітарнага асяроддзя разбагацець, выйсці ў людзі, здабыць адукацыю ў замежных універсітэтах, як ён тут жа выракаўся матчынага слова, роднай культуры і нават не хацеў лічыць сябе прадстаўніком свайго народа. Шматлікія прыклады такой здрады можна знайсці практычна на ўсіх стадыях нацыянальнай гісторыі. Праўда, мелі месца і выпадкі зусім адваротнага парадку, калі нашыя дзяржаўныя дзеячы, багатыя, адукаваныя людзі ўсёй душой і сэрцам служылі інтарэсам Бацькаўшчыны. Але іх было мала, каб істотным чынам паўплываць на яе лёс. Адсюль усе нашыя сённяшнія беды, адсюль наша дашчэнту дэфармаванае нацыянальна-культурнае жыццё, у якім адмысловае, адметнае часам і днём трэба шукаць з ліхтаром.

Нічуць не пабаюся памыліцца ў сцвярджэнні, што такіх здэбеларусізаваных палітыкаў усіх рангаў, такой здэбеларусізаванай інтэлігенцыі, асабліва ў яе самых верхніх эшалонах, у нашай краіне яшчэ ніколі не было. І гэта ў час, калі перад беларускай нацыяй павінна на ўвесь рост паўстаць праблема выратавання ад этнічнай смерці?!

Даведзеная да крайне небяспечнай мяжы дэбеларусізацыя сённяшняга жыцця нашай краіны — гэта вынік працяглай яе паланізацыі і русіфікацыі, што стала прычынай абыякавага стаўлення многіх людзей да сваіх гістарычных традыцый, духоўнай спадчыны, прывяло ледзь не да поўнай адсутнасці разумнага нацыяналізму, які так высока цаніўся і цэніцца ў цывілізаваным свеце. Практычна ўсе на сёння магутныя, са здаровым, невядомым для нас, беларусаў, нацыянальным патэнцыялам народы спаўна зведалі нацыяналізм, ад чаго маюць вялікую выгоду. У свой час, каб не даць германскаму народу растварыцца, падпасці пад уплыў якіх-небудзь іншых этнічных супольнасцяў, была выдадзена ў некалькіх мільёнах экземпляраў брашурка з дзесяццю запаведзямі германскага нацыяналізму і патрыятызму, у якім быў і такі пункт: "Пішы заўсёды па нямецкай паперы, нямецкай ручкай, макаючы яе ў нямецкае чарніла і карыстайся нямецкай прамакальнай паперай".

## 2. ПРЫКЛАД ПАКАЗВАЛІ СУСЕДЗІ

Багатую школу нацыяналізму прайшлі нашыя суседзі — рускія і палякі. Умовы ў першых былі значна лепшыя для матэрыялізацыі гэтай ідэі. На ўсход ад Маскоўскай (Рускай цэнтралізаванай) дзяржавы ляжалі велізарныя малазаселеныя тэрыторыі, далучыць якія не ўяўляла аніякай цяжкасці. І Масква гэта зрабіла. Некаторыя з такіх тэрыторый былі заняты шляхам звычайных ваенных экспедыцый без усялякіх людскіх страт. А калі такія і мелі месца, дык у асноўным з-за непрыстасаванасці членаў экспедыцый да жорсткіх прыродна-кліматычных умоў. Польшчы ж, каб павялічыць тэрыторыю і гэтым самым узвялічыць аўтарытэт свайго этнасу, развіць у яго пачуццё нацыянальнай вартасці, трэба было праявіць куды больш намаганняў і ў многіх выпадках зусім іншыя сродкі, пераважна мірныя. У гэтых мэтах яна ў дачыненні да свайго ўсходняга суседа — беларусаў вельмі тонка выкарыстала дыпламатыю, міжшлюбныя сувязі з багатымі і ўплывовымі родамі Вялікага княства Літоўскага і нарэшце — наступальны каталіцызм. Усё гэта дазволіла ёй заключыць з ВКЛ шэраг вельмі выгадных для сябе палітычных уній. Зразумела, самай пажаданай і ў той жа час лёсавызначальнай для Польшчы стала апошняя — Люблінская унія 1569 года. Дзеля супакаення палітычных дзеячаў княства яму на першым часе даваліся пэўныя правы ў розных сферах дзяржаўнага, эканамічнага і культурнага жыцця, але на практыцы — асабліва з другой паловы XVII ст. — гэтыя правы ўсё часцей парушаліся, у выніку чаго беларусы ў складзе Рэчы Паспалітай ледзь не канчаткова пазбавіліся нацыянальнага суверэнітэту, у значнай ступені страцілі ў выніку жорсткай, а дзе-нідзе вельмі тонка прадуманай паланізацыі ўласцівыя ім этнакультурныя рысы і асаблівасці.

Будуючы жыццё на прынцыпах нацыяналізму, гэтыя дзяржавы пастараліся з дапамогай сваіх вучоных усяляк апраўдаць такую палітыку. Найбольш грунтоўна тэарэтычныя асновы рускага нацыяналізму былі выкладзены ў працах дзекабрыстаў і, бадай, лепш за ўсё ў "Русской Правде" Паўла Песцеля. Прызнаючы факт поліэтнічнасці Расіі, ён лічыў, "што права народнасці існуе праўдзіва для тых толькі народаў, якія карыстаюцца гэтым, маюць магчымасць яго *захаваць*... плямёны, якія падуладныя вялікай дзяржаве і не могуць па слабасці сваёй карыстацца самастойнаю палітычнаю незалежнасцю і падлеглыя такія чынам абавязкова знаходзіцца пад уладай ці заступніцтвам якой-небудзь з вялікіх суседніх дзяржаў, не могуць надзяляцца правам народнасці, бо яно ёсць для іх уяўнае і неіснуючае... А таму лепш і карысней будзе для іх саміх, калі яны злучацца духам і грамадствам з вялікай дзяржавай і зусім з'яднаюць сваю народнасць з народнасцю пануючага народа, складаючы з ім толькі адзін народ, і спыняючыся бескарысна марыць пра справу немагчымую і неажыццявімую". Выказвалася парада, каб далучаныя да рускай народнасці плямёны "складалі ў дзяржаве не толькі кепскапрылепленыя да яе часткі, але зліваліся б зусім у агульны склад, забываліся б на сваю колішнюю слабую народнасць і ўступалі б з задавальненнем у новую вялікасную народнасць..."

Адначасова П. Песцель стаяў за тое, каб гэтая вялікая, пануючая народнасць асабліва не супраціўлялася "паасобнаму існаванню народаў, якія могуць карыстацца поўнаю палітычнаю незалежнасцю". Праўда, такіх народаў у Расіі ён бачыў вельмі і вельмі мала, пакідаючы без права на ўласную дзяржаву Фінляндыю, Эстляндыю, Ліфляндыю, Курляндыю, Беларусь, Маларасію, Бесарабію, Крым, Грузію, увесь Каўказ, землі кіргізаў, народы Сібіры і г. д. Такім правам, дый то ва ўрэзаным выглядзе, надзялялася толькі Польшча, паколькі на працягу многіх стагоддзяў яна карысталася "адмысловаю палітычнаю незалежнасцю і складала вялікую самастойную дзяржаву". Насуперак гістарычным фактам Беларусь такою не бачылася, хаця на працягу доўгага часу і выступала ў асобе Вялікага княства Літоўскага. У выпадку ўтварэння польскай незалежнай дзяржавы ёй перадаваліся цалкам Гродзенская губерня і Беластоцкая вобласць, часткай — Віленская і Мінская губерні.

Нацыяналізм, — праўда далёка не ў разумным праяўленні — у поглядах П. Песцеля з вялікай сілай прабіваўся на паверхню і тады, калі ён вёў гаворку пра форму дзяржаўнага ладу. Іншага тыпу дзяржавы, як адзінай, непадзельнай для Расіі ён не ўяўляў, пішучы: "З першага погляду можа федэратыўная будова дзяржавы падацца зручнай і прыемнай: бо кожнай вобласці магчымасць дае дзейнічаць паводле свайго меркавання і сваёй волі; але пры самым уважлівым разглядзе лёгка пераканацца можна ў рашучай перавазе непадзельнай арганізацыі дзяржавы над федэратыўным; асабліва дастасоўваючы гэта да Расіі пры вялізнай яе прасторы і вялікай колькасці розных плямёнаў і народаў, што яе насяляюць". А менавіта гэтыя ж фактары, наадварот, і абумоўлівалі неабходнасць для Расіі мець федэратыўны дзяржаўны лад. Развіваючы далей свае меркаванні аб перавагах непадзельнай, адзінай Расійскай дзяржавы, П. Песцель заключае: "...усялякая думка аб федэратыўным ладзе для яе пабудовы адхіляецца канчаткова як самая згубная шкода і найвялікшае зло. Пазбягаць належыць усяго таго, што апасродкавана ці неапасродкавана, прама ці ўскосна, адкрыта ці патаемна да такой пабудовы дзяржавы весці б магло.

З прычыны ўсяго тут сказанага аб'яўляецца расійская дзяржава, у межах вышэйазначаных, *адзінай* і *непадзельнай*, якая адхіляе пры гэтым канчаткова ўсялякую федэратыўную арганізацыю, пабудову і існаванне дзяржавы". Як бачым, дзекабрыст П. Песцель быў адным з першых, хто спрычыніўся да выпрацоўкі тэарэтычнага погляду на Расію як на адзіную і непадзельную дзяржаву, дзе няма месца для нармальнага і адмысловага нацыянальна-культурнага развіцця ўсіх нярускіх народаў, а значыцца і захавання іх як самабытных этнасаў.

П. Песцель, як ніхто іншы да яго, добра разумеў, якую перашкоду для зліцця розных плямёнаў у адзін народ, асіміляцыі апошніх уяўляюць іх мовы. Таму ён рашуча выступаў за сціранне нацыянальных асаблівасцяў і найперш мовы. Для гэтага лічыў неабходным, каб, па-першае, "на цэлай прасторы расійскай дзяржавы панавала адна толькі мова расійская". Такі крок абгрунтоўваўся тым, што з пераходам на адну мову рускую "ўсе зносіны тым самым надзвычайным чынам аблегчацца; паняцці і спосаб думак зробяцца аднародней; людзі, якія зносяцца на адной і той жа мове, найцяснейшую сувязь паміж сабой займеюць і аднастайней складаць будуць адзін і той ж народ".

Каб Расія не нагадвала сабой поліэтнічнай краіны, П. Песцель прапаноўваў знішчыць нават імёны яе народаў і плямёнаў. Ён верыў у рэальнасць ажыццяўлення такіх планаў і схіляў да гэтага сваіх аднадумцаў: пішучы: "Вопыты ўсіх стагоддзяў і ўсіх дзяржаў даказалі, што народы скрозь бываюць такімі, якімі іх робяць праўленні і законы, пад якімі яны жывуць". Праўленні і законы, што прапаноўваліся П. Песцелем, і камня на камні не пакінулі б ад этнакультурных адметнасцяў шматлікіх плямёнаў Расіі. Няцяжка ўявіць, які прыгнечаны настрой агортвае сёння малдаван ад чытання тых радкоў з "Русской Правды" П. Песцеля, што прысвечаныя вызначэнню лёсу Бесарабіі і Малдовы ў складзе адзінай Расійскай імперыі. "Усе сродкі павінны быць прыняты, каб даць магчымасць дзвюм абласцям зусім абрусець і зрабіцца аднароднымі часткамі аднаго і таго ж цэлага, гэта значыць дзяржавы расійскай". Цывілізаванаму чалавеку не проста зразумець такую сквапнасць на інтарэсы чужых народаў, жаданне сцерці іх з этнічнай карты зямлі, за што выступаў П. Песцель.

Зусім не па-братэрску, не па-славянску ставіўся гэты, адзін з самых папулярных прадстаўнікоў дзекабрысцкага руху, да ўкраінцаў і беларусаў. Гісторыя, культурнамоўная спадчына, быт іх былі вельмі добра вядомымі П. Песцелю. Але дзеля правядзення ў жыццё сваіх шавіністычных планаў ён свядома не прызнаваў сапраўдных адметнасцяў паміж складовымі часткамі ўсходнеславянскай супольнасці народаў — велікаросамі, маларосамі і беларусамі, і лічыў, што малыя адрозненні паміж імі "павінны быць зліты ў адну агульную форму. А таму і пастанаўляецца правілам, каб усіх жыхароў, якія насяляюць губерні Віцебскую, Магілёўскую (жыхароў іншых губерняў Беларусі ён адносіў да рускага народа. — **Л. Л.**), Чарнігаўскую, Палтаўскую, Курскую, Харкаўскую, Кіеўскую, Падольскую і Валынскую, за сапраўдных расіян лічаць і ад гэтых апошніх ніякімі асобнымі назвамі не аддзяляць", г. зн. называць тым жа найменнем, што і жыхароў вялікарускіх губерняў.

З мэтай прыцягнення на свой бок як мага большай колькасці прыхільнікаў П. Песцель усяляк імкнуўся даказаць, што абрусенне ўсіх іншародных плямёнаў будзе садзейнічаць "узвядзенню Расіі на вышэйшую ступень працвітання, велічы і магутнасці".

Па-сур'ёзнаму здзіўляе, што П. Песцель выступаў за асіміляцыю нярускіх народаў Расіі, адначасова прызнаючы, як гэта скалечыць іх жыццё і балюча адаб'ецца на настроі. І тут ён ніколькі не памыляўся, бо і сапраўды мець уласную дзяржаву, належныя ўмовы для развіцця сваёй культуры — гэта жаданне ўсіх без выключэння народаў. З такім законным жаданнем чалавецтву давялося сутыкнуцца яшчэ на самых ранніх этапах яго гісторыі. Не маглі не ўлічваць яго і дзекабрысты, складаючы праекты дзяржаўнага механізму будучай Расіі. У "Русской Правде" П. Песцеля запісана: "Народы, якія падуладныя вялікай дзяржаве і паходзяць не ад пануючага ў ёй, але ад іншых плямёнаў, жадаюць заўсёды для сябе незалежнасці і паасобнага палітычнага існавання, грунтуючыся на праве складаюць паасобныя дзяржавы і называючы яго *правам народнасці*". Здавалася б зусім лагічным, гэты разумны пастулат распаўсюдзіць і на нярускія народы царскай Расіі. Але аўтар "Русской Правды" да іх лёсу ставіўся з прынцыпова іншых пазіцый.

Царызм жорстка расправіўся з дзекабрыстамі. У ліку пяці з іх, што былі павешаны, апынуўся і П. Песцель. Але дзекабрысцкія ідэі па частцы рускага нацыяналізму не толькі не былі забытымі, а, наадварот, атрымалі далейшае развіццё і распаўсюджанне, сталі магістральным напрамкам у правядзенні нацыянальнай палітыкі. Над узбагачэннем тэарэтычных палажэнняў гэтай ідэі папрацавала ні адно пакаленне рускіх вучоных. Праўда, сустракаліся грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы, вучоныя, погляды якіх прынцыпова адрозніваліся ад таго, што гаварылася вышэй.

Інакш, да прыкладу, глядзеў на мінулае і сучаснае, культуру Беларусі вядомы заснавальнік і тэарэтык анархізму, рускі публіцыст Міхаіл Бакунін. У адным з лістоў у герцанаўскую газету "Колокол" ён пісаў: "Я патрабую толькі аднаго, каб усякаму народу, Літве, Курляндыі, Ліфляндыі, Беларусі з Смаленскам, Украіне з Кіевам былі цалкам дадзены магчымасць і права дзейнічаць па волі, хоча ён зліцца з Расіяй або Польшчаю — няхай зліваецца; хоча ён быць самастойным членам польскай або рускай ці агульнаславянскай федэрацыі — няхай будзе ім".

Ад таго часу, як Расія, Прусія і Аўстрыя падзялілі Рэч Паспалітую, а яшчэ больш пасля таго, як у адпаведнасці з рашэннямі Венскага міжнароднага кангрэса 1814—1815 гг. у склад Расійскай імперыі перайшла ўсходняя частка Варшаўскага герцагства, рэзкія перамены адбыліся ў польскім нацыяналізме. У перыяд існавання Рэчы Паспалітай ён меў увесь набор рысаў наступальнага характару і ледзь не прывёў да этнічнай смерці беларускую народнасць. Цяпер яму давялося заняць абарончыя рубяжы, ратуючы свой этнас ад русіфікацыі. І трэба сказаць, што рабілася гэта на вельмі высокім ўзроўні, чаму можна па-здароваму пазайздросціць сучасным беларусам. Са зброяй у руках палякі паспрабавалі абараніць свае нацыянальныя інтарэсы толькі двойчы: у час паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гг. Увесь жа астатні час дзевяты вал русіфікацыі яны стрымлівалі з дапамогай адпаведнай сістэмы царкоўна-рэлігійнай дзейнасці, арганізацыі грамадскага і сямейнага ўзгадавання маладых пакаленняў. Бачачы, з якім гераізмам вядзе змаганне з русіфікацыяй прагрэсіўная частка польскага народа, да яе часам імкнуліся далучыцца і асобы беларускага паходжання. Паказальнай тут можа падацца пазіцыя ўраджэнца з Віцебшчыны, беларуска-польскага паэта і фалькларыста, аўтара выдадзенай у 1840 г. у Парыжы кнігі "Беларусь..." Аляксандра Рыпінскага. У звароце да жанчын-маці ён рэкамендаваў ім лічыць сваім найпершым абавязкам навучыць дзіця вымаўляць святое імя Польшчы, калі яно яшчэ не гаворыць "мама", не даваць дзіцяці патрэбнай ежы "да таго часу, пакуль яно не папросіць па-польску". Зразумела, польскія жанчыны-маці слова ў слова не прытрымліваліся парады А. Рыпінскага, але моўнае выхаванне дзяцей у сям'і будавалі вельмі правільна: у першую чаргу вучылі іх размаўляць, чытаць і пісаць толькі па-польску, а ўжо затым далучалі да іншых моваў.

З усіх духоўных каштоўнасцей палякі ў час навіслай над імі пагрозы русіфікацыі нічога гэтак не сцераглі, нічога гэтак ні стараліся захаваць, як родную мову. Настойліва заклікаў іх да гэтага польскі пісьменнік і гісторык Юльян Нямцэвіч (1758—1841), слушна заяўляючы: "Мова — аснова нацыі, ці больш дакладна — ўяўляе сабой адрозненне нацыі ад нацыі. Калі толькі сціраецца родная мова — гіне імя Бацькаўшчыны...

*(Працяг на стар. 14—15)*

КНІГАРНЯ

# Пра крыжакоў і гуслі

Нялёгка сёння жывецца нашым пісьменнікам. А на перыферыі — яшчэ цяжэй. Амаль кожны дзень я сустракаю Аляксея Якімовіча, які на старэнькім ровары, паклаўшы на багажнік сумку з падручнікамі і вучнёўскімі сшыткамі, едзе са Слоніма ў вясковую школку да сваіх дзетак. І так ужо дваццаць пяць гадоў. Ды й па кнігах, не ведаючы асабіста аўтара, можна здагадацца, што пісьменнік працуе настаўнікам. Бо героямі ягоных аповесцей з'яўляюцца дзеці.

У 1967 годзе выйшла першая кніжка А. Якімовіча "Гордзіеў вузел, альбо Нявыдуманыя гісторыі з жыцця Алеся Пятрашкі". Пасля былі яшчэ дзве — "Эльдарада просіць дапамогі" (1989 г.) і "Сакрэт Тунгускага метэарыта" (1993 г.).

Акрамя прозы, пісьменнік спрабуе свае сілы і ў драматургіі. Слонімскі тэатр паставіў ужо чатыры п'есы А. Якімовіча, якія паглядзелі тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак з розных куткоў Беларусі. Спектаклі: "Чарадзейныя суніцы", "Хітрыкі бабы Ягі", "Апошні дыназаўрык" і "Добры змей" па яго п'есах самыя масавыя і прыбытковыя сцэнічныя дзіцячыя пастаноўкі тэатра.

Але, бадай што, найбольш талент А. Якімовіча выявіўся ў прозе для дзяцей. Пераконваешся ў гэтым і прачытаўшы новую кнігу празаіка "Пастка для пярэваратня", якая толькі што выйшла з друку ў выдавецтве "Юнацтва".. Кнігу склалі дзве аповесці. У першай, якая дала назву кнізе, аўтар ўваскрашае падзеі сярэдзіны XIV стагоддзя на Панямонні, у прыватнасці — напад атрада крыжакоў на вёску Парэчча.

Гэтая аповесць адносіцца да прыгодніцка-гістарычнага жанру. Тут ёсць і захапляльная прыгодніцкая інтрыга (бой сялян з атрадам крыжакоў, нечаканае з'яўленне ў ваколіцах Парэчча таямнічай жанчыны... з барадой), і неверагодныя, амаль фантастычныя сітуацыі, якія здараюцца з героямі аповесці у раздзелах "У яме", "Змяя ў Шчары", "Вясёлка ў вачах", "Паядынак з ваўчыцай" і ў іншых.

А. Якімовіч паказаў сябе як добры знаўца дзіцячай псіхалогіі. Яскрава, рознабакова раскрыты характары дзяцей Янкі, Маццея, Алесі. Яны не проста дзейнічаюць у творы, а жывуць. І мы жывём іхнімі клопатамі, марамі, спадзяваннямі, перажываем не толькі за іх, але і за сваю старонку, назва якой — Беларусь. Разам з дзецьмі задумваемся над такімі пытаннямі: хто мы? Адкуль пайшоў наш род? Выжывем з годнасцю, прайшоўшы ўсе выпрабаванні, ці растворымся ў бяскрайнім моры шматлікіх народаў?..

Лаканічна, але з любоўю апісваецца ў аповесці прырода. Яна адухоўленая, жыве разам з героямі, як і мы, перажывае за іх. Аповесць насычана разнастайным фактычным матэрыялам. Прачытаўшы яе, школьнікі даведаюцца, як даўней апраналіся беларусы, што ўжывалі ў ежу, якую зброю выкарыстоўвалі, каб абараніцца ад ворага. Аўтар падрабязна апісвае, як праводзілася свята Першай Баразны, як адбываўся абрад ініцыяцыі, як пяклі каравай. Асаблівую ўвагу заваострае на высокіх маральных традыцыях, характэрных для беларусаў: "госць у хаце — самы ганаровы чалавек. Зрабіць зло госцю — ганьба ўсёй вёсцы". Беларускі народ у кнізе паказаны, як самабытны, адрозны ад іншых народаў. Ён вельмі любіць сваю зямлю, шануе сям'ю, захоўвае звычаі. Аўтар верыць у тое, што беларусы не згінуць як этнас, захаваюць сваю багатую спадчыну — мову і культуру. Нездарма аповесць "Пастка для пярэваратня" заканчваецца такімі словамі: "Угары, у небе, бліснула. Глуха прагрукатаў гром. Налецеў вецер — закалыхаўся агонь паходні. Здавалася, вось-вось патухне. Не, не патух. Разгарэўся ярчэй".

Прыгодніцка-гістарычную тэму працягвае і другая аповесць-казка "Гуслі на дзікай грушы". Яе галоўныя героі Ігнат і Пятрусь вельмі любяць сваю зямлю, а галоўная думка яе — бяда чакае той народ, які выракся сваёй мовы, свайго роду, адмовіўся ад сваіх песень.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ПОШТА

# Заслужыў адданасцю...

У N 35 "Літаратуры і мастацтва" прачытала артыкул "Аб якім тут Станкевічу гутарка?", які выклікаў шмат разнастайных эмоцый: здзіўленне, задавальненне, удзячнасць. Гэта быў артыкул пра майго бацьку.

Мне не давялося трымаць у руках бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", у каторым два зборнікі вершаў бацькі прыпісваюцца Станіславу Станкевічу (студэнту, публіцысту, літаратурнаму крытыку). На маю думку, можна было б пазбегнуць гэтых памылак, каб аўтары слоўніка звярнуліся ў свой час да віленскіх беларусаў па інфармацыю. Тут для нікога пытанне аб аўтарстве зборніка "Смех не грэх" і "З майго ваконца" не стаяла. Прытым, у мяне й у брата Яраслава Станкевіча захаваліся матэрыялы, якія пацвярджаюць аўтарства нашага бацькі.

Мы вельмі ўдзячны спадару Янку Трацяку за тое, што ён узняў гэтае пытанне ды, наогул, успомніў пра дзейнасць бацькі на справу беларушчыны. Лічым, што ён на тое заслужыў сваёй шчырай адданасцю беларускай справе і пакутамі за яе ў сталінскіх лагерах.

Ды ўсё ж застаецца пытанне: ці будзе памылка ў бібліяграфічным слоўніку калі-небудзь выпраўлена?

**Міраслава РУСАК**

*г. Вільня, Летува*

іншая сітуацыя. Падтрымкі ад радні ніякай. Сам да нядаўняга часу беспрацоўны. Абурыцца паводзінамі начальніка — значыць, пазбавіцца таго нямногага, што дае стабільная, няхай сабе і халуйская, праца. А галоўнае — пазбавіцца надзей на лепшую будучыню. У дадзеным выпадку вобразам-надзеяй з'яўляецца кватэра. Яна — як недасягальная мара...

Пісьменнік мог бы прымітыўна-рашуча параўнаць часіны, характар прыжыццёвых мар у розных там ідэалагічных вымярэннях, калі кватэру (а мо і дзве, і тры) атрымаць было ў сто разоў прасцей. Кватэра, на шчасце, не становіцца сацыяльна-мастацкім персанажам аповесці. А пісьменнік не пераўвасабляецца ў ідэалагічнага вешчуна пра "горкае сёння, светлае ўчора". Хаця і аднолькава жорсткімі фарбамі бязлітасна вымалёўвае і ўчора, і сёння.

У вадзіцеля, якому шчасліва магло б жыцца ў залежнасці ад памкнення служыць пахалуйску, ёсць і свая памяць. Пра вёску дзяцінства. Пра калгас, як правобраз самай што ні ёсць дыктатуры. Праўда, у тым родным антынародным калгасе на дыктатуру старшыні і ўлады не працавала процьма дзяржаўных інстытутаў. Галоўны інстытут улады ў вёсцы Міколавага дзяцінства — шафёр старшыні Гэл. Магутны, усеўладны шафёр. Гэл настолькі ўмацаваў сваю ўладу ў калгасе, што ён, а не нейкі там брыгадзір, вырашаў, каму і калі даць каня, каму дзе адвесці дзялянку пад сенакос, чыё дзіця адпусціць пасля школы ў горад, а чыё не. Словам, як памятае Мікола, гэты малпападобны чалавек вырашаў, так бы мовіць, каго караць, а каго літаваць. Яшчэ Гэл неадназначна намякаў сваім аднавяскоўцам, што ён не толькі шафёр старшыні, а яшчэ — і на службе ў адпаведных органах. Вось і Міколу яго шэф распытвае пра "тое-сёе". Шафёр упарта, злёгку хітруючы, стараецца адвесці размову ўбок. Але і сам разумее, што наўрад ці доўга ўдасца хітраваць.

І ўсё ж Мікола не вытрымлівае. Не можа вытрываць чалавек метадычны здзек, калі на шалі пастаўлены лёс блізкіх яму людзей. Мікола кідае шэфу выклік. Што ў адказ? Мікола — сведка многіх шэфавых прадзелак. Ён не ведаў, што пакуль імчаўся ў гараж, шэф, раз'юшаны яго нечуванай непаслухмянасцю, пазваніў вартаўніку і загадаў: "Ні ў якім разе не выпускаць з тэрыторыі вадзіцеля С., калі той паставіць машыну! Выклікаць міліцыю, паліцыю, д'ябла, самому накінуцца на яго, затрымаць да майго прыезду!.." І Міколу затрымліваюць. Вартаўнік разам з сабакам. Затрымліваюць, як у нас прывыклі, навучыліся, як у нас беспакарана заўсёды гэта робяць.

Мікола — не бунтар. Ён — тыповы сучаснік, заціснуты часам у абцугі. Заціснуты настолькі, што час можа яго раструшчыць. Як раструшчвае тысячы, сотні тысяч, мільёны людзей. Самае простае — вінаваціць іх за маўклівасць, няздольнасць дзейнічаць, бунтаваць. Але пісьменнік "проста апісвае" тое жыццё, якім мы ўзнагароджаны, надзелены. Зусім не задача пісьменніка да нечага клікаць. І да чаго клікаць?.. Важна іншае — вострa, пранізліва "апісаць", праз чалавека-адзінку паказаць сацыяльнае нутро грамадства.

У аповесці "Перакулены свет" Уладзіміру Саламаху гэта ўдалося.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

БЛІЦ-КРЫТЫКА

# Карнавал на "матэрыяле" памірання

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваецца аповесць Віктара Казько "Да сустрэчы..." ("Полымя", N 5). У абмеркаванні бралі ўдзел наступныя асобы: Алесь Бадак, Леанід Галубовіч, Н. Капшай, Уладзімір Конан, Валянціна Коўтун, Раман Тармола-Мірскі, Галіна Тычка, Ірына Шаўлякова, Вольга Шынкарэнка. Нагадваем, што пералік прозвішчаў даецца ў алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў. Па жаданні рэспандэнта яго адказ падпісваецца.***

●

Прагна чакаю кожны новы твор В. Казько. Ведаю: ён зноў звернецца да балючых праблем нашага часу.

Але якімі мастацкімі сродкамі можна выказаць нявызначанасць, дысгармонію сённяшніх дзён? Тут павінна быць такая выразнасць і экспрэсія, каб глухі пачуў, сляпы ўбачыў.

Казько — аўтар аповесці "Да сустрэчы..." — у мяне выклікаў усё больш асацыяцый з Гофманам. Тая ж фантастычная рэальнасць, фантасмагорыя, гратэск, нераздзельнасць рэальнага і вымышленага, дваістасць героя і часу, непрыкаянасць мастака-Майстра, які ўсё ж павінен жыць у асяроддзі "масавага псіхозу"...

Казько і Гофман — гэта цікава...

●

Імя Віктара Казько заўсёды выклікае ў мяне найдабрэйшую ўсмешку, асветленую павагай. Павагай да стыхіі сапраўднага таленту. Ён прыйшоў у нашу літаратуру з нейкім генным вопытам, з вопытам-здольнасцю адкрываць Высокае і Таемнае праз Зямное.

Адкрыты нерв... Космас Палесся-Беларусі. Космас Чалавека і яго Радзімы.

І пры гэтым — уменне асэнсоўваць Час у пазачасавым, канкрэтнае ў Прасторавым.

І перадаваць — напружана-зрокавым літаратурным стылем.

Такі ж В. Казько застаўся ў аповесці "Да сустрэчы..."

**Валянціна Коўтун**

●

Віктар Казько празаік, які заўсёды здзіўляў і захапляў сваёй фантазіяй, сваім адметным позіркам на свет, дзе на першым месцы была шматмернасць гэтага свету. У аповесці "Да сустрэчы..." ён здзівіў іншым. Тут ёсць грамадзянская смеласць, гарачая публіцыстычнасць і адбітак асабістай аўтарскай дэпрэсіі, у якіх, на жаль, загубілася мастацкасць.

●

Аповесць Віктара Казько "Да сустрэчы..." ратуе гонар беларускай прозы. Страшэнна збяднела яна апошнім часам: аўтэнтыку моцна пацясняе імітацыя, падробка пад традыцыю, эпігонства, паўтор савецкіх "узораў" другога-трэцяга гатунку. Нават у салідных часопісах друкуюць літаратурныя аксакалы дрэнныя канспекты сваіх ранейшых даволі прыстойных твораў...

Экзістэнцыяльны аналіз яго аповесці добра зрабіў Міхась Тычына ў рэцэнзіі, апублікаванай "ЛіМам" (10 кастр. 1997 г.). Пасля яе можна толькі паспрачацца — з аўтарам аповесці і яе рэцэнзентам.

Аўтар не прадумаў кампазіцыі эпізоду дэманстрацыі, аб'яднаўшы ў адзін "пануры натоўп" тых, хто ішоў пад чырвонымі бальшавіцкімі сцягамі, з тымі, хто ішоў пад бел-чырвона-белымі. З апошнімі мне прыходзілася пабываць: яны ішлі весела, як на фэст.

Не магу пагадзіцца з рэцэнзентам, што "ў творы пануе настрой абсалютнай безнадзейнасці, нейкай смяротнай паныласці і цяжкай прыгнечанасці". Калі ўжо герой аповесці дазволіў наладзіць карнавал "на матэрыяле" свайго ўласнага памірання, то гэта ўжо — не панылась, а нешта ў стылі рэнесансу альбо народнага тэатральнага дзейства.

Урэшце загаловак аповесці сведчыць пра надзею ўваскрэсення чалавека і нацыі.

●

Жонка мая, натыкнуўшыся на прысвячэнне "памяці Турава", праглынула аповесць адразу, паколькі добра ведала "кухню" "Беларусьфільма". Аднак паставілася да прачытанага скептычна, найперш з-за неадпаведнасці прататыпа і галоўнага героя...

Разумею — мастацтва, але чытаць не стаў...

І ўсё ж, паколькі вакол гэтага тэксту ўзнік такі ажыятаж — то абавязкова прачытаю. Мажліва, што ўжо ў гэтыя выхадныя дні ці на кастрычніцкія святы...

Нават мая жонка можа раз у год памыліцца...

**Л. Галубовіч**

●

Пранізлівы, горкі астаф'еўска-распуцінскі матыў развітання, разарванасці чалавека з акаляючым светам, са сваёй першасутнасцю, што настойліва гучаў і ў ранейшых творах В. Казько, стаў дамінуючым у яго апошняй аповесці.

Кажучы папраўдзе, не заўсёды канкрэтныя факты паспяваюць у творы ператварыцца ў мастацкія. Усё ж сацыяльнасць больш стасуецца з публіцыстычнасцю, а непасрэдны ўплыў падзей патрабуе іх перадачы пераважна праз прамыя значэнні слоў. Тым не менш твор Казько моцна бярэ за жывое якраз сваёй жыццёвасцю, абвостраным адчуваннем драматызму нашага часу праз адлюстраванне драмы Мастака. З болем аголеных нерваў перадае празаік безвыходнасць, задушлівую пустату канца стагоддзя, усеагульную стомленасць, "бацылы якой, здаецца, былі распаўсюджаныя ў самім часе". Аўтарская вібрацыя голасу ўбірае ў сябе і гнятлівае абурэнне жабрацтвам героя, і непераканаўчы дакор за яго няўменне рабіць грошы, і непрыхаваны страх перад павагай дзяцей "страшных гадоў Беларусі" да прадажніцтва і знешніх шчадрот.

А над усім гэтым — бязмежны пантрагізм. Глыбокі смутак, слёзы бяссілля над памерлым сябрам, сваім і нашым жыццём, дакладна вызначаным Ю. Станкевічам як "псеўда".

●

Першае ўражанне: настальгія па "вялікім былым" — заразная, на свет Божы ўпарта лезе новы жанр — настальгічны стогн-рэфлексія.

Другое ўражанне: аповесць наскрозь пранізана рознага кшталту сімваламі, якіх аб'ядноўвае ў сістэму дух пэўнага дыдактызму, маралізатарства.

Трэцяе ўражанне: страшнавата становіцца жыць — ужо дзеці пытаюцца "А што ёсць жыццё?".

Апошняе ўражанне: шчымліва напісана — хапае за сэрца (асабліва эпізоды з катом) і розум (арыгінальныя вобразы кентаўраў, горада-бамжа ды інш.).

●

***О шаноўны наш Казько...***
***І жыцця і смерці пашча***
***Любіць хапаць заваляшчых***
***Сярод бомжаў і князькоў.***
***Ды не з іх ён... Чорта з два***
***Марыць ён аб "да сустрэчы..."***
***Пакуль варыць галава,***
***А не пачарнелы глечык.***

***У яго душы хаос.***
***Сёння модна як хаосіць,***
***А яшчэ мадней — хрыстосіць,***
***Вымываецца марам слёз.***
***Люд яшчэ ўсё ў нас нямы.***
***Але змрок не стане звадай:***
***Хіба Лецечкі паглядам***
***Не падсветлены ўсе мы?..***

●

Проза Віктара Казько цягучая, як малады мёд — яе нельга чытаць нахапкам. Яе трэба смакаваць — асобныя слова, сказ, ад чаго мы пакрысе адвыкаем і, магчыма, гэты працэс незваротны.

Па гэтай прычыне пра яе і цяжка гаварыць коратка, тым больш спехам, павярхоўна — заўсёды ёсць небяспека, што большая частка гэтага "айсберга" застанецца незаўважанай і нераскрытай.

# НА ЗЯЛЁНЫМ ЧАЎНЕ ХАРОНА

Марыя ВАЙЦЯШОНАК



АПАВЯДАННЕ

улікі апазнання, што тут дагэтуль, да нядаўняга часу жыла зусім другая жанчына. Амаль бянтэжачыся, бы чужое без дазволу, разгарнула свой дзённік. "Хмарная раніца, і так да вечара, не згадаць, якая пара. І раптам на самым захадзе — сонца! Блізка пырхнула і знікла. Не пайдзі я гуляць з сабакам на пагорак, не знайшла б сённяшні дзень, маленькі, асенні, злоўленай жоўтай птушкай з маёй кішэні..." Шмат шчаслівых запісаў, без колераў смутку, без аднастайнасці будзённага. Почырк то дрыготкі, рабаціннем па вадзе, то буйны, круглявы, вінаградзінамі ад прыліву пачуццяў. У куфэрку featureрознакаляровыя істужкі, матузкі, рабыя каменьчыкі, пёрка птушынае — усё прыхавана любоўна, як нацельны амулет пад далоняй ад чужога вока.

I гэтым можна было цешыцца? Гэтым можна было жыць?..

Чым далей, тым асцярожней дакраналася да рэчаў, да рознай дробязі, пачуваючыся ў сваім доме пастаяльцам, які зняў чужое жытло, пэўней было сказаць — чалядніцай. Тут ёй ужо нічога не належала, ніштo не супадала з ейным настроем. Іншы раз такая сцятасць, цесната, такая патрэба вярнуцца назад, да ранейшага жыцця, як у гадзіну скону, калі доўга пакутуе, паміраючы, вядзьмарка: парушце столь, адарвіце бэльку, душа не можа сама адысці!..

Стук у акно ад панадворку. Ускочыла, увесь час пільнуючыся бяды. Што ў каго здарылася, яшчэ ж добра і не развіднела? Вось, выдавала, нехта закрычыць на вуліцы, рвучы на сабе валасы.

— Імполік?!

— Дайце закурыць...

Такой парой турбаваць людзей, злуецца яна.

— Хіба раніца? Каб я тое ведаў, не прыйшоў бы, — шчыра, памяркоўна гэтак гаворыць, маўляў, уважыў бы, а як жа.

Яна хавае сумную ўсмешку, забаўляючыся тым, як лёгка сама трапляе ў ягоную пустэльню, дзе скасаваны тычкі папзнатку на дзень, на поры года. Толькі во пільна ўспомніць, дзе хвілю назад пакінула свае цыгарэты, каб хутчэй развітацца з Імполікам. Вясной ён галадаваў. Па-воўчы шукаў сабе есці, рабіў патраву ў чалавечым статку. Да відніцы крадучыся абходзіў вёску: дзе што блага ляжыць, хто спіць, не зачыніўшыся. Яна сама яшчэ не клалася ад учарашняга. Ноч была светлая, не хацелася нічога запальваць. Святло ад поўні ішло густым зеленкаватым патокам. У ім рухацца, хадзіць па доме лягчэй, бяздумней, бы па краі страхі.

— Ты ўжо ўстала? — прачнуўся муж.

Даўно не заўважае ейнай адсутнасці, калі сядзіць побач, калі рукі знаходзяць ейнае цела. "Скажы мне што-небудзь..." — папросіць укленчыўшы. Словы кахання даўно выгнаны з ейных вуснаў, з ейнай мовы — яшчэ на пачатку замужжа... Вядомы хірург, у яго тэрміновая камандзіроўка па хуткай дапамозе, начным цягнікам. У Гародню, Поўнач... адна гадзіна... дзве з чвэрцю..., дзве з паловай. Ёй крэўная патрэба суправаджаць яго ў думках, не спаць, нічога не рабіць, быццам таксама з ім у дарозе, патрэба ўвесь час трымаць ягоны шлях на памяці, нічым сабе не замінаючы. Аберагаць, ахоўваць, і тады з ім нічога не здарыцца... Ён у Брэст. Бюро даведак? Скажыце, ці даляцеў самалёт да Брэста? — пыталася ўслед, пужаючыся самой сябе. У адказ абыякавы механічны голас, якраз тое, што трэба, калі даюць збой нервы... Вяртаўся амаль заўсёды пазней, без папярэджання, пад прыгнётам ейнай штохвіліннай аховы, любові. Вадалей, пад легкадумным знакам паветра, аніводнай парушынкі ў вачах, што здрадзіў ёй, прыйшоўшы дадому ад каханкі. Сорамна гаварыць да яго аб каханні, гэтак, як брыдка было б, да прыкладу, адчуваць пажаднасць да хлопчыка з царкоўнага хору, у каторага яшчэ і пол не абазначыўся. Адчувала сябе намнога старэйшай у сваіх пачуццях. Вучылася кахаць абачліва, быццам мела справу з атрутай, і сама ж атручвалася, любячы жыць усёй душой. Ужо яна і да вакна не падыходзіць, калі ён ад'язджае. "Скажы мне што-небудзь..." Заўсёды папросіць нечакана. Словы з той гаворкі, з таго даўнейшага, на самым кароткім пачатку. Яму патрэбна стаянка, стойбішча, дзе заўсёды можна было б перачакаць непагадзь, свае любоўныя няўдачы, глынуць чыстай вады і зрэзаць заламаны капыт, і каб ніхто не запытаў, адкуль ён і куды зараз. Ніякавата адварочвалася, пераводзячы размову. А ён ужо зноў стоцьма ляцеў у невядомым ёй напрамку, шаўковым ветрам абдымаў нечыя каленькі. Ён не ўмеў пакутаваць. Што яе цяпер з ім аб'ядноўвала? Ён быў адзін з нямногіх, а можа, адзіны, суседства якога раскрывала ейную асобу: прымушала ўвесь час напружана шукаць сілы, дабываць сэнс, перажываючы здраду, здзекі, нават натхненне. Умацоўвалася каля яго, як ля выбранага назаўсёды бажка, які пасылаў ёй усё новыя і новыя выпрабаванні. І не адчувала сябе пакутніцай. Акурат бажок, жорсткі, таленавіты, не па-чалавечы заблізка ля свайго сузор'я — супадала па гараскопе ўсё ягонае жыццё, і нават парадак і настрой дня.

Хіба па гэтым можна быць шчаслівай, каб не дачка... А ёй жа ўдавалася.

У хвіліны адчаю сядала ў падараваную ім "Шкоду", ехала ў Мінск да найлепшай сяброўкі Алены, анідзе не збаўляла ход, не зважаючы на святлафоры. Ужо пераступіўшы ейны парог, адчувала палёгку і ад самой дарогі, ад рызыкі быць затрыманай. Размова набывала вясёлы, бесклапотны характар — пра літаратурныя навіны, моды, ні слова пра мужа... На хаўтурах дачкі Алена стаяла з ёй быццам побач. І адышла за парог разам з усімі, хто прыходзіў на пахаванне, разам са спачувальнай хваляй, не даючы ёй аніякага права папрасіць застацца. У мужа быў твар незаконна затрыманага на гэты раз злосніка, ён збіраўся ў тэрміновую камандзіроўку.

Якраз учора Алена наведалася з яшчэ адной сяброўкай. Учора быў не па-вясноваму надта цёплы дзень. Алена — у саламяным капелюшы, перавязаным каля брыля стужкай. Погляд блізарукі, стойка збочаная, бы ўвесь час перад камерай, як манекеншчыца. Круглявы твар без адзінага следу жыцця. Падышла да вады, пачала мыцца. Мокрай далонёй па шчацэ да падбароддзя, ледзь дакранаючыся, бы амывала папяровы кітайскі ліхтар. Гэтыя сяброўкі толькі дзеля весялосці, яны, вядома, не да яе, а да той гаспадыні, што жыла раней.

Якая нярупная сёлетняя вясна, бавіцца недзе за гарамі, за марамі. Зязюля і тая кукуе нязвыкла блізка. Няўжо ў вёсцы? Сярод драўляных хат, хлявоў, платоў, гук азваўся ўжо і ў хаце. Як у пустым кубле — выбраны, спажыты за зіму крупы, зерне, мука, няшчыльна зачынена вечка ад мышэй, каб выветрыўся затхлы дух. Іншы раз яе спыняла знаёмая мелодыя, білася ў шкло, знікала. Толькі шоргат крылляў матыля, і на руках рознакаляровы пылок. Чым мацней веснавыя галасы, ярчэй краскі, тым мацней глухата, немагчымасць адазвацца, загаварыць. А кропля дажджу са страхі разбівалася аб камень, як вялізная шкляная пасудзіна. Няўпэўненымі крокамі па хаце, з хаты за парог. На панадворку, заціснуўшы маркоўнік, шчавук, узышла нізенькая трава, густая, донная. Доўга спалі зярняткі, чакаючы во такой марудлай вясны, і хутка закрасавалі. Па ёй, па зялёным днішчы, зіхацелі ўпаўшымі зорамі кветкі маргарытак. І па межах, дзе было не ўзарана, скрозь. Не памятаецца, каб гэтак калі яшчэ цвілі.

Гойдаўся пад ёй дрыготкі зялёны човен Харона.

Яшчэ самае разводдзе, вады ў рацэ за ноч пабольшала. На тым беразе стаіць па калені ў вадзе нечы конь. Няўцямна ступіла на мост, мацае нагой, ці ён яшчэ прыбіты, ці ўжо гойдаецца, як плыт. Каламутная плынь накідваецца на вочы, падварочвае сэрца — уся сыходзіш разам з ёй пад бярвенне. Конь застаяўся на адным месцы, заграз, як тарантас, ледзь зрушыла. А што калі за гэты час зняce мост і яна не паспее вярнуцца? Толькі перайшла, насустрач Імполік, з вядром — куды і па што? Складаецца самае неверагоднае: "Пэўна, у маліны..." А ён:

— Што, у маліны хадзіла?

Гэтак мы думаем адзін аб адным. На момант аж у вочы ўесца, патыхне ад яго жывым, гадамі не змытым нацельным духам.

— Калі б не перайшла, я вядром бы раку вычарпаў! — крычыць наўздагон.

А што яму варта, царкву за вёскай ён ужо будуе, выкапаў цэлы кар'ер. Назад з лесу будзе несці адну, не болей, лясіну на дровы. Ніколі не запасіцца, каб і падкінуць у печ спатрэбілася, то зноў у лес пойдзе. З куста на панадворку вылецела птушка, юркнула за вугал, пэўна, чужая, хавалася ад дажджу, спяшалася ў сваё гняздо. Вільготна, холадна, сонца, як у печы, за заслонкай. "А што, калі не вярнуся назад... да ранейшага жыцця?.." Але яна не хоча супрацiўляцца болю. Хто гэта казаў, маўляў, пасля музыкі, жывапісу, паэзіі боль — чацвёртае з мастацтваў? Мартын Вальзер? Хіба адзін чалавек мог зведаць усе шляхі чалавечага смутку?

Па нечыяй чужой звычцы ішла ў лес адразу за домам. Учора бачыла сляды дзіка, і сёння падрыта, зусім свежая ралля на дзірване. Калісьці любіла зведаць той першародны страх перад другой дзікай істотай. Страх гранічны з павагай да невядомага табе, страх, які звязвае тваю волю. Лес выдасца чужынцам, ніводнага знаёмага куста, ні сцежкі, дрэвы сышлі з месца, загарадзіліся, лес здзічэў. Ужо ён належыць толькі гэтаму звеpу, быццам нарэшце вярнуўся сюды стары гаспадар і ўсё пераставіў, як мэблю, па-свойму. Толькі на першы момант. Потым страх асядае, асядае, як пад рукі вядуць цябе, знямоглую, сцішаную. Напоўніцу заглынеш ляснога духу. І слова лішняга не прамовіш. А іншы раз лес да цябе толькі што не гаворыць. Стоена чуеш ягоны свежы подых. Спакойна і ўтульна, бы мы нагаварыліся калісьці, склаўшы галовы, там, уверсе, даўно ведаем адзін аб адным усё патаемнае. Ступіўшы за ягоны парог, можна і не вітацца, бы жывеш тут разам заўсёды, і начуеш. Елкі тут, як нідзе болей не бачыла, калісьці заламаныя бурай, разгаліноўваюцца на дзве вяршаліны, а то і на тры, стаяць кандэлябрамі, як у нетутэйшым палацы. Лес — палац. Туманы ад ракі заносяцца ветрам да самай высокай елкі на пагорку, дзе мроілася ўбачыць доўгі стол. Карункі абруса да долу, паўсюль ветраніца дуброўная, скрозь шалупінне арэхаў, шышак пасля начнога балю.

— Белая пані! Маленькая пані ў белым! — крычаў неяк у гарачцы Імполік, бегучы праз ноч да лесу.

Якраз у гэтым месцы ўзыходзіць поўня, падымаецца з-за стала апоўначы, стросшы з падолу шалупінне. Якраз самая тая пара, калі мужчына можа ўбачыць, пазнаць у ёй на момант жанчыну, начную палюбоўніцу, таямнічую пані ў белым, якая зводзіць маладых і старых, вясёлых і засмучоных. "Я польскі кавалер..." — гаворыць сам да сябе Імполік, доўга ходзіць за агародамі, супакойваецца, склаўшы, як нябожчык, рукі ў рукавы паліто.

І зараз цвіце анемона — ветраніца дуброўная. Карчэўе, пні — скрозь адным бялюткім колерам. Чыстыя пялёсткі, без адцення, без пражылак. Абы прыгрэла сонца, ападуць на зямлю яшчэ да вечара з дзіцячым тварыкам. А ёй усё самота. Усё ёй часовае навокал, напамінак аб кароткім жыцці. Ніхто тут не сеяў, не даглядаў, не прыбіраў, нічога тут не належыць чалавеку. Уваходзіла ў квітнеючы вясновы лес, як у чужы сад. І ўжо пара вяртацца?! Ейнае асабістае жыццё скарацілася да імгнення, дагэтуль быццам і не ўсведамляла сваёй смерці. Паветра вечнасці, вядома, надае гэтаму свету бясконцасць. Але яе не суцяшае магчымасць яшчэ аднаго жыцця. Яна сумуе па нязменнасці, па пастаянстве месца, вось гэтага, каля лесу, па пастаянстве гэтаму дому, мужавай вернасці. Яна абцяжарана патрэбай пастаянства. Будаваць дом — назаўсёды, кахаць — назаўсёды, а не на нейкі тэрмін. Каб стукнуў па бервяне дома, казала суседка, то пэўна б кроў выступіла, гэтак цяжка мужык будаваўся, яго самога ўжо і на свеце няма. "А што, каб мы не сустрэліся?" — іншы раз дапытваўся ў Данутy муж. Яна ніколі не сумнявалася ў сваім выбары, давярала выпадку, любіла ўсёй душой, радасна абжывала, што толькі ёй ні траплялася. Шкатулкі з істужкамі, яркія пушачкі ад падарункаў, скарбонкі, напамінкі кожнага дня, бы пялёсткі калісьці падараваных кветак. Ніколі не здымала з рукі дарагі заручальны пярсцёнак, калі нават рабіла чорную работу, ён сцёрся да срэбнай ніткі, вось-вось разломіцца, згубіцца. Адну такую палавінку, залатую, знайшла ў зямлі, калі толькі купілі гэтую сялібу. Дакранулася да далоні незнаёмай жанчыны, пераняўшы ад яе веравызначэнне не разлучацца.

Неяк, трапіўшы з дачкой на могілкі, хадзіла, разглядала, шуткуючы, выбірала сабе месца. Каб на пагорку, каб сонца доўга не заходзіла, быццам з акна будзе ўсё гэта бачыць ці з высокага ганка. І раптам — фотаздымак на помніку. Жанчына глядзела ў паўабарота, бы азірнуўшыся на яе, насміхалася і страшыла, не падпускала блізка падысці занадта вясёлую, шчаслівую.

Ёй наканавана іншае: знікнуць пахі, гукі, колеры, як пры канцы свету, яна будзе доўга-доўга плыць у зялёным чаўне на той бераг.

У вёсцы стаяў галас, аж у лесе чулася. Людзі ішлі біць Імполіка, не вытрымліваючы выпрабавання, спасланага Богам. Дапільнаваўся-такі, калі суседка адвярнулася ад хаты, украў бутэльку гарэлкі. Сядзе іншы раз напроці, нерухомы, шэры, як воўк, вачэй не спускае з акна, пакуль агонь не пагасне. У адным канцы вёскі ўкрадзе, у другім пахваліцца. "Украў — не скажу ў каго!" — шчыра карцела пахваліцца ўдачай. Сама бачыла, як сёння нешта хаваў на дрывотні за суседскім хлевам. Хітра паходзіць некаторы час наводдаль з пустымі рукамі, каб трапіць каму-небудзь на вочы паражняком, і забраць крадзенае ўжо тады, калі сыдуць пошукі злодзея. Білі, паваліўшы на зямлю, палкамі, нагамі. Імполік бараніў рукамі твар, енчыў, не прызнаваўся. Білі за тое, што праз яго даверу не маюць адзін да аднаго, што трэба хату пільнаваць, думаючы на благое, а тут сяўба, тут касавіца, тут і жніво. Білі, каб не абсеў, не адужаў іх, старых, гэты малады дурань. Кідалася заўсёды бараніць, цяпер во не дабегла. Першымі за мужчын адваліліся ад яго бабы.

— Можа, і праўда, не ён... — пераговорваліся на вуліцы астылымі галасамі, маўляў, у вёсцы поўна алкаголікаў.

Няхай лепей сумняваюцца, думала сабе. Пра тое, пра сёе, і забыліся пра Імполіка. Стаялі, варажылі, ці прыляціць сёлета бусел на старое гняздо. Цёплая хустка-валёнка ў каторай на галаве ад зімы. Паўночныя людзі, старыя жанчыны. Не на поўную веру тварам да цяпла. Як лёгка, да плачу лёгка падлічыць свае вёсны, гады! Гэта не на поўдні, дзе цвіце лімоннае дрэва, а побач з кветкай вісіць спелы плод. Бы на навагодняй ёлцы: і пернік, і пеўнік, і анёл з воску. Там, пэўна, чалавек не так заўважае свае гады, жыццё, пэўна, — як навагодняе свята, яркае, апавітае бліскучай сонечнай мішурой. Мае бабкі, мае зязюлькі, мае гаротніцы, гэтак пяклуюць усё жыццё, урабляючы зямлю, некаторыя даўно кукуюць без мужыкоў і без коней! Вунь і найлепшая ад усіх Надзя. Гэтак хутка сышла ейная прыгажосць, адны вочы, сінія, чыстыя, бы ўвесь час глядзіць на анёлаў у небе, што плятуць вянкі.

(Працяг на стар. 12)

## Рамантычныя фрагменты жыццёвай прозы



**У кожным гарадскім раёне і мікрараёне, на кожнай вуліцы абавязкова ёсць кропка, якая адыгрывае ролю культурнага цэнтра. У раёнах "пралетарскіх" гэта звычайна гастраном. Там, дзе жыве больш адукаваны электарат, — рэстаран або кавярня. А ў раёнах прэстыжных роля культурнага цэнтра належыць установам культурным. У Траецкім прадмесці, якое з нядаўняга часу стала ледзь не візітнай карткай нашай сталіцы, культурны цэнтр, цэнтр прыцягнення — мастацкая галерэя "Жыльбел". Прычым свой статус цэнтра галерэя заваявала , адсунуўшы такіх канкурэнтаў, як кнігарня "Вянок", літаратурныя музеі, "афганскі" мемарыял.**

**"Жыльбел" — з'ява ў маштабе сталіцы і ўсёй краіны. Я не ведаю ў Беларусі іншай прыватнай галерэі, якая б так упэўнена і мэтанакіравана рабіла сваю, па сутнасці, дабрачынную справу ў наш, не надта спрыяльны для культуры час.**

**Зараз у галерэі — выстава твораў жывапісца Аляксандра Дзямідава "Рамантычныя фрагменты". Мастак нарадзіўся ў Мінску ў 1965 годзе, адукацыю атрымаў у мінскай мастацкай вучэльні і Беларускай акадэміі мастацтваў. Удзел у выставах пачаў браць яшчэ падчас навучання ў акадэміі. Выставы тыя былі персанальныя і групавыя. Творы А. Дзямідава знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, краін Бенілюкс, Нямеччыны, Іспаніі, Польшчы, Злучаных Штатаў. Паспеўшы за свае адносна маладыя гады пабачыць свет, мастак застаўся патрыётам роднага горада і мяркуе, што чалавеку, мастаку дастаткова для нармальнага жыцця і творчасці шчыльнага асяродку сяброў і аднадумцаў ды яшчэ ўтульнага побыту. Астатняе ён намалюе сам.**

**Творы А. Дзямідава выклікаюць асацыяцыі з карцінамі Барысава-Мусатава, стылістыкай мастакоў "Мира искусства", у нейкай ступені — з фантазіямі Шагала. У той час, як многія маладыя мастакі ў сваім жаданні адпавядаць сучаснасці цалкам адвяргаюць апавядальны пачатак у жывапісе як праяву "літаратуршчыны", А. Дзямідаў застаецца прыхільнікам сюжэтнага жывапісу. Дакладней, сюжэтна-настраёвага, бо ў ягоных палотнах першасны — настрой. Калі класіфікаваць яго жывапіс згодна літаратурным намінацыям, дык гэта будзе, мабыць, рамантычная (і разам з тым не пазбаўленая іроніі) казка для дарослых. Чамусьці каля ягоных карцін прыгадваеш дзяцінства. Чамусьці прыгадваеш казкі і тое, што яны ніяк не стасаваліся з рэчаіснасцю, з побытам, з рэальным жыццём. У дзяцінстве гэта ўспрымаецца трагедыяй. Дарослы ж чалавек ведае, што інакш не бывае. Але тое, што немагчыма ў жыцці, цалкам верагоднае на карціне...**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

## "Варыяцыі на спрадвечнае"

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча, што ў Траецкім прадмесці Мінска, часта ладзіць у сваім памяшканні выставы беларускіх мастакоў. 1 лістапада тут адкрылася экспазіцыя Юрыя Кур'яновіча пад назвай "Варыяцыі на спрадвечнае". Гэта першая, а таму і невялічкая, выстава маладога мастака, які займаецца таксама і літаратурнай творчасцю (выдаў кніжку рамантычнай прозы "Ён і Яна"). Увазе наведвальнікаў прапануецца шэраг карцін, напісаных Ю. Кур'яновічам цягам апошніх трох гадоў.**

**Для карцін мастака характэрны "нечаканыя" кантрасты разнастайных фарбаў, спалучэнне рэалістычных і сімвалічных вобразаў, праз якія Ю. Кур'яновіч імкнецца ўвасобіць свае думкі, адчуванне і настрой на палатне. Аб філасафічнасці ягоных твораў сведчаць і іх назвы: "Роздум", "Спрадвечнае", "Неспазнанае", "Дзе Вы?"...**

**В. БУЛЬЖЫНСКІ**

ТЭАТР

***Папершапачатку ў гутарку з Мікалаем ШЫЙКО настойліва прасіўся лейтматыў "ад Гоццы да Гоццы": з часоў "Зялёнай птушкі" на сцэне Рэспубліканскага тэатра юнага гледача не было ні памкненняў, ні намаганняў ставіць "высокага генія", наватара, рэфарматара, вынаходніка непаўторнага сцэнічнага стылю, гэткага таты Карла (Карла Гоццы) новай сцэнічнай умоўнасці і акцёрскіх магчымасцяў. "Шчаслівыя жабракі" ў пастаноўцы Мікалая Шыйко ўразілі публіку не горш за колішнюю "Зялёную птушку". Падобна, што і для трупы тэатра, і для беларускай публікі рэжысёрава прозвішча трывала атаясамілася з удачай, з напружаным унутраным жыццём у творчасці, з рэдкаю тэатральнаю радасцю, са смакам асалоды. Мікалай Міхайлавіч, аднак, не зважаючы на лёстачкі, унёс у гутарку свой "мяккі" сур'ёз.***

# Партрэт з вышыні палёту

— Пасля таго, як усё мінулася, — спадар рэжысёр добразычліва засяродзіўся, — ведаце, як у Ахматавай — "партрэты мяняюцца". І мой партрэт мяняецца. Мае пяшчотныя пачуцці да тюгаўскае трупы — гэта радасць у рабоце. Такой я нідзе не спазнаў. Пытанне пра колішні ад'езд з Беларусі для мяне вельмі цяжкае, на яго трэба адказаць з нейкім унутраным маштабам, тым больш раўнавага і ацэнкі падзей мяняюцца. Як партрэты. Мяркую, што з'ехаў я калісьці з Мінска ўсё-такі з нейкай боязі, — маўляў, не апраўдаю спадзяванняў ды авансаў, якія звязаліся з маімі першымі беларускімі работамі. Дый не такі ўжо я баец, — рэжысура, бачыце, мае на ўвазе не адно ўменне мысліць вобразамі ды іх пераўвасабляць, — іх трэба ўмець адстойваць. Адных прымусіць не замінаць, іншых — падпарадкавацца. Рэжысуру ж і спарадзіла наша жахлівае стагоддзе. Любімаў мог за сябе пастаяць (а ён увогуле жыў у нечалавечых умовах), хоць цяля бадалася з дубам, як у Салжаніцына. Каб сам Любімаў не быў такім змагаром, дык ніхто — ні Капіца, ні Вазнясенскі, ні Сахараў — не ўратаваў бы спектакляў. А ў Мінску пры ўсіх *поспехах я быў прыезджы, не было ні ка*ранёў, ні апірышча, таму, мяркую, не адбылося і ўзыходжання... Усё-такі вельмі важна, калі трымаюць карані, радзіма, плечукі падстаўленыя...

**— А вашы карані?**

— Складана сказаць. Я ў карэнным сэнсе такі нецікавы чалавек. Без какетавання, прашу вас, зразумейце, — але калі скажу, дык пэўна выдасць на какетаванне. Бо яны — у Венецыі, як упэўніўся нядаўна. Я ўсё жыццё пражыў з падсвядомым адчуваннем знаёмасці, нават сваяцтва з яе культурай. Аснова ж мая, безумоўна, на Украіне. Украінец, які нарадзіўся на Украіне, але гадаваў*ся і вучыўся па-руску, для якога культура* ўласнага народа была чымсьці другім, а руская сталася роднай... Гэта дзіўная, глыбокая тэма. Я толькі не хачу развіваць яе ў духу сучасных праблем нацыянальнага самавызначэння.

**— А гэта вельмі цяжка — прыязджаць у чужы горад і радніцца з ім... на часіну? І з'язджаць упрочкі?**

— Гэта і цяжэй, і лягчэй. Я ніколі не загадваў на будучыню, не фармуляваў сваё жыццё, не планаваў. Усё адбывалася без пэўных намераў або высілкаў з майго боку. Нават без прадчуванняў. Гульня выпадку? Абставін? Хутчэй — гэта нейкая недавыказанасць, недагаворанасць маёй любові да тэатра. Да тэатра, а не да рэжысуры ў прыватнасці. Бо я не магу сказаць, што рэжысура мяне захапіла, мною завалодала. Я — тэатральны чалавек, які аддаў перавагу рэжысуры.

**— А ў вас ніколі не было свайго (у першасным сэнсе) — узгадаванага вамі тэатра?**

— Не. Але быў калектыў, які мяне прыняў, як той казаў, да сэрца: беларускі ТЮГ. У Мінску я быў бліжэй, дзе б там ні было, да калектыўнага ўдзелу ў рабоце. Да сёння памятаю прыклады вялікага даверу і вялікай бескарыслівасці з боку акцёраў. Калі мог актрысу зняць з ролі не ў кабінеце, а пры ўсіх, і яна аддана (!) наведвала ўсе наступныя рэпетыцыі, і брала ўдзел у масоўках!

**— А Карла Гоццы — гэта "покліч крыві"? Або вы ўвогуле аддаяце перавагу кідкай драматургіі, характарнасці, тэатральнаму балю, які "менавіта выключае праўдападобнасць"?**

— У Гоццы — такі сінтэз розных тэатраў! Ён самы таямнічы, неспазнаны і вабны. Калі ў яго зазіраеш, паўстаюць дзівосныя светы: і Шэкспіравы жарсці, і казачныя павароткі, — таямнічыя, яны катурхаюць, цвеляць уяўленне; і ў той самы час Гоццы — адметны тэатр прадстаўлення, які бясконца трансфармуецца, мяняецца, дзе нават выхады акцёра розняцца ад спектакля да спектакля. Усё мае на ўвазе эстэтыку дэль артэ, але паяднаную з днём сённяшнім. Волі і вольнасцям сцэнічным я аддаю перавагу, так... Але жыццё пражыў у пэўнай няволі. З гледзішча маралі застаўся ў тэатры прыстойным чалавекам, пашкадаваць магу хіба пра тое, што ставіў Карнейчука (усё разумеючы). Але сітуацыя была надта неадназначная, бо рабілася гэта дзеля тэатральнае спрэчкі, з таемным намаганнем ўратаваць тое, чыё раскіданне было крыўдна бачыць, — тэатр Леся Курбаса. Рабілі мы тады з Давідам Бароўскім, рабілі дзёрзка; за магчымасць ісці насуперак і не падпарадкавацца ў высокім давялося заплаціць, узяўшы да пастаноўкі п'есу "У стэпах Украіны". Праўда, мы разбуралі эстэтыку, якая склалася вакол яе, дый сам Карнийчук, дзяржаўны дзеяч, ездзіў па свеце, часам глядзеў там спектаклі і недвухсэнсоўна скіраваў нас з Давідам, мовіўшы: "Хлопцы, рабіце як у Польшчы". Яму вельмі карцела быць модным, між тым надыходзіла іншая эпоха, сплывалі гады *шасцідзесятыя*... Да сёння на Украіне сябрую з Лесем Танюком.



**— Вашы бліжэйшыя пяць гадоў праходзілі ў МХАТе... Вам не страшна там?**

— Ну-у... Страшна. У гэтым тэатры напраўду страшна, бо ён сам больш легенда, чым рэальнасць. І калі зірнуць на яго метафізічна (як мы згадваем Мінск, як разважаем пра Гоццы — з вышыні палёту), дык у МХАТе цяжка будзе любому, якім бы ён ні быў цынікам або вузкамыслячым чалавекам.

**— Раскіданне МХАТа спадар Смялянскі назваў правобразам раскідання СССР. А вы адчуваеце што-небудзь падобнае?**

— У мяне на гэты конт непапулярны пункт гледжання. Я мяркую, што вызначэнні "развал", "роскід" не да месца. Я мяркую, што скананне СССР — гэта вызваленне людзей ад каланіяльнай залежнасці. Глядзець з сумам на парэшткі (так, на парэшткі) плюгавай імперыі? Іга, прыгон — гэта не толькі адсідкі ў ГУЛАГу. Гэта калі беларус не можа па-беларуску, а ўкраінец — па-ўкраінску, калі можна сказаць на іх — "не хочуць", у той час калі іх мовы проста скралі. А як ненавідзелі савецкі прыгон латышы ды эстонцы, сярод якіх я доўгі час працаваў! Таму драматычную гісторыю роскіду МХАТа можна тлумачыць якімсьці сімвалічным, кабалістычным чынам, даследуючы самую ідэю роскіду. Я вось у размове з вамі высунуў сваю палітычную платформу, але ў МХАТ кожны ўкладае сваё разуменне, тэатр гэты да сёння — *нешта важнае й велічнае*. Там узнікалі і кшталціліся Меерхольд, Вахтангаў, Крэг, Суляржыцкі, Марджанаў... Кожны з іх сам сабой уяўляе тэатр, свет...

**— А цяперашні МХАТ — не музейнага выгляду тэатр?**

— Не. Іншая рэч — там спектаклі надта розняцца па вартасцях. Шмат розных кірункаў, але прысутнічае асоба лідэра — Яфрэмава, які сам па сабе чалавек... гістарычны. Мы можам зразумець ягонае месца і значэнне ў культуры паступова; ён засяродзіў у сабе шмат драматычнага. Вакол ягоных "Трох сясцёр" (нядаўняя пастаноўка) не аціхаюць воплескі прызнання, поспеху...

**— Масква — ужо не тэатральная Мека былога СССР?**

— Вядома. Жыццё больш стракатае, у ім больш пены — усялякіх прэмій, прэзентацый, але гэта амаль не суправаджаецца развіццём тэатра. Надышоў нейкі тэатральны адпачынак. Цікава параўнаць нечуваны росквіт пачатку стагоддзя і сённяшнюю самотную выяву. Цана маскоўскага поспеху мізарнее. Праўда, я не вельмі актыўна прымаю ўдзел у агульнамаскоўскім тэатральным свяце. Я — маргінал...

**— Прабачце, Масква, мабыць, не ваш горад?**

— Не мой. Мой росквіт, мяркую, прыпаў на Эстонію, на працу ў Таліне: была і свая рука ў прафесіі, рука ўжо спрактыкаваная, упэўненая, і разуменне сэнсу тэатра, і ягонага месца... Мне здавалася, што я разумею маіх балтаў, але, напэўна, гэтае разуменне і нават паразуменне раздражняла... Нават тамтэйшых рускіх. Зрэшты, напружанасць колішняга эстонскага жыцця (а мы, дарэчы, наведвалі з гастролямі Мінск) саступіла месца маскоўскай маргінальнасці...

**— Вы сказалі пра сваё разуменне тэатра, пра ягоны сэнс і месца. З часам гэтае разуменне не знікла? Не памянялася?**

— Ёсць маё разуменне тэатра. Гэта не так абагульненне маёй практыкі (да якой я стаўлюся вельмі стрымана і не без гумару); тэатр — рэч куды больш ёмістая і цікавая; як казаў Пастарнак, акцёр — прыватнасць (частность) тэатра, а галоўны персанаж — гэта ўяўленне. Так і рэжысура. Якою бы выбітнаю яна ні была, тэатр змяшчае куды больш за яе. Чым больш я жыву, тым больш відавочна мая тэатральная мадэль крышталізуецца ў тэатр, які ў прынцыпе... вольны ад літаратуры! Праўда, гэта ідэалістычна і фантастычна, бо такога тэатра я амаль не бачу, але, скажам, у лепшых спектаклях Юрыя Любімава рэжысёрскі тэкст гэтаксама (а то і больш) важны, як тэкст драматурга. "Праўдападобнасць усё яшчэ лічыцца галоўнай і асноўнай умовай і грунтам драматычнага мастацтва. Што, як давядуць нам, што і сама сутнасць драматычнага мастацтва менавіта выключае праўдападобнасць?" — І гэта — Пушкін! На двары да крыві і сіні можа ісці якая-кольвек рэвалюцыя, у тэатры — як у Пастарнака, маўляў, якое там тысячагоддзе на двары? Але мы — людзі, ад свайго тысячагоддзя не вольныя, мы лезем разбірацца з ім і з сабой у ім...

**— І вы... лезеце? Вы глядзіце навіны штовечар?**

— Увогуле... гляджу. Люблю паслухаць "Свабоду". Быў момант, калі перамены палітычныя мяне вельмі ўсхвалявалі, і я наіўна даверыўся ўрадоўцам постсавецкай фармацыі. Працверазіўся і зрабілася крыху *сорамна за тое, што на нейкія мітынгі хадзіў*. Хоць не, не ўсе называю "нейкімі". Калі здарылася жахлівая гісторыя з танкамі ў Літве (ля тэлевежы), мы з жонкай выстаялі велізарную чаргу ў Літоўскім пасольстве, распісаліся ў кнізе спачуванняў, палажылі кветкі. Па-чалавечы я сябе разумею... У мяне гэта слабыя памкненні, прывіды палітычнай і грамадскай дзейнасці. Ну, а пасля таго, як мы ўсе так падмануліся, у мяне вельмі скептычны погляд на лёс і магчымасці краіны, якая называе сябе "Расійская Федэрацыя". Яна ўсё-такі Богам пазначаная, але не зусім так, як мяркуюць патрыёты. А так, як гэта разумелі Чаадаеў, Грыбаедаў, цэлы шэраг

лепшых ды інакшых... Яны разумелі, папярэджвалі, усяляк намагаліся сфармуляваць сваю трывогу ў дачыненні да сваёй зямлі, народа, гісторыі...

**— Мікалай Міхайлавіч, а вы верыце (ці верылі калі-небудзь), што тэатр — такая кафедра, з якой увогуле штосьці можна сказаць свету?**

— Я сам шмат чым абавязаны тэатру Любімава, "Современнику". Яны ў маім жыцці адыгралі не адно тэатральныя ролі. Але і маральныя ўрокі далі. Тады яны дапамагалі выжыць. Цяпер, — памяцю, — жыць, адчуваць сябе. Праўда, галоўнае ў прафесіі не гэта.

**— У вас ёсць вучні?**

— Я выкладаю ў РАТІ (былы ГІТІС) на кафедры сцэнаграфіі, нават нейкі там прафесар... Прыемна, што выкладаю не акцёрскае майстэрства, не рэжысуру, а, мовім так, погляды рэжысёра на работу мастака. Загадчык кафедры спадар Бархін, вялікі энтузіяст тэатра, увесь час катурхае мяне, — каб ставіў нейкія эцюды, імправізацыі, інсталяцыі, акцыі, перформенсы, хэпенінгі... У вузкім сваім коле мы пры канцы семестра часам што-небудзь гэткае і прыдумваем. Сёлета будавалі тэатр "Глобус", — па ўласных чарцяжах. З кардону, паперы, палачак восем мастакоў на нашых вачах і пад музыку, і пад Шэкспіраў тэкст, які ў запісе чытаў сам Гілгуд, хвілін дваццаць моўчкі працавалі. Потым прычапілі стужку-плакат з надпісам "Як вам гэта падабаецца" і моўчкі зніклі. Але давялі, што любы "Глобус" можна і трэба будаваць.

**— І складнікам будынка мусіць быць, акрамя шмат чаго, унутраная прага будаваць. На ваш погляд, да якой ступені гэтая прага мусіць валодаць творцам?**

— Я вельмі люблю Бабанаву, сустракаўся з ёй, грамадаваў і не толькі ў тэатры. Я назіраў яе ў жыцці. Яе пакутлівы працэс работы на роляй! Не самазнішчэнне, а ўтварэнне з сябе кагосьці іншага. Гэта можна параўнаць з цяжарнасцю, з родамі, — ёсць адчуванне мэты. Але такі выпадак, — будавацьз сябе, — рэдкі. Агульны крызіс тэатра і асабліва жахі тэлебачання давялі акцёра да разбурэння. Шмат хто з нашых тэлезорак — гэта акцёры-дэграданты, ім на сцэне няма што рабіць. Яны не ў стане сабраць ролю. Ад добрага рэжысёра яны ўцякаюць. Ёсць некалькі выключэнняў, але вельмі і вельмі прыватных. Акцёры раздураныя, прыніжаныя, без крытэрыяў. Для мяне цяпер акцёрскі ідэал — Віктар Гваздзіцкі, рэдкі кшталт... каметы, якая заляцела ў Маскву адкульсьці з іншай тэатральнай планеты. Ён вельмі мала здымаецца ў кіно (дарэчы, у кіно паводле п'ес Бабеля й Горкага), не прызнае ніякіх агучванняў, закадравых галасоў, тэлеспектакляў, — ніякіх падпрацовак, падзаробкаў і г. д. Ён іграў Арбеніна ў маім "Маскарадзе", — я ведаю, што кажу. У Гваздзіцкім жыве боязь іграць эрзац, — ён адмаўляецца ад роляў, калі яны не першакласнай драматургіі. Ён сыграў у МХАТе Падкалесіна, ідэальна дапасаваўся да ансамбля. Акцёраў, увогуле, няможна вінаваціць, лаяць, бо само жыццё падступліва, жорстка ўмяшалася ў нашу работу. Каб выстаяць, патрэбны рэдкія сілы. Бо нашы акцёры-паспяхоўцы — вельмі заможныя людзі. Але плацяць за гэта... Гэта нейкі матыў з "Фаўста", з п'есы "Цень"... Чалавек разбураецца, не толькі прафесійнік. Атмасфера — адзіная на ўсіх у тэатры. І для акцёраў, і для рэжысёраў, і для крытыкаў. Публіку — і тую ўцягнулі ў закуліснае жыццё. Атмасфера — заразлівая. Сваімі жахлівымі рэйтынгамі, іміджамі, прэзентацыямі, усімі жудлівымі гэтымі паняццямі, якія так чэпка прысмакталіся да нашага жыцця. Публічнасць прафесіі робіцца другаснай перад публічнасцю з'яўлення ў патрэбных месцах. Мільгаценне, неабходнасць увесь час быць навідавоку... Той тэатр, які я люблю і спавядаю, меў на ўвазе таемнасць. Лепшы тэатр у свеце, які я ведаю, гэта тэатр дэль артэ. Калі акцёры без п'есы, без зафіксаваных мізансцэн, без агульнага вырашэння і канцэпцыі стваралюць непаўторнае відовішча на адзін-адзіны раз! Акцёр мог усё жыццё іграць Панталоне, але так выігрывацца ў ім! ("Ваша праўда, так трэба іграць", — як у Пастарнака пра Меерхольда). Яны, акцёры, былі захопленыя гэтым і толькі гэтым, і больш нічым... А наш класік напісаў "Паэтам можаш ты не быць" і вызначыў сутнасць сённяшніх разбурэнняў: не акцёры, а грамадзяне тэатра...

**— Абараняцца? Як?**

— У мяне на Захадзе ёсць сябры, якія не маюць тэлевізара. Я быў здзівіўся (заможныя людзі), а цяпер разумею, як важна ў нашай прафесіі ацалець. Для сябе... Гэта, паверце, не подзвіг стаіцызму. Быць нармальнікам — нармальна, натуральна, заканамерна. Да старасці трэба ісці і прыходзіць з нейкім разуменнем сябе.

**З Мікалаем ШЫЙКО**
**гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Мікалая ПЯТРОВА (БЕЛТА)*

БАЛЕТ

# Таямніцы старажытнасці

Круглагаловыя фігуры з антэнамі над шлемамі, загадкавыя істоты ў скафандрах — што гэта выяўлена на старажытных наскальных малюнках Сахары? Можа, іншапланецяне, якія наведвалі калісьці нашу зямлю, як лічыў аўтар нашумелага фільма "Успамін пра будучае"?

Таямніцам далёкага мінулага, якія ў многім, аказваецца, звязаны з харэаграфіяй, прысвечана кніга Э. Каралёвай "Танец і мастацкая культура", што нядаўна выйшла ў Мінску. У ёй аўтар прадаўжае свае даследаванні, пачатыя 20 гадоў таму ў вядомай манаграфіі "Раннія формы танца". З'яўленне новай кнігі ў наш цяжкі час сталася магчымым толькі дзякуючы дзейснаму ўдзелу і спонсарству дырэктара Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа Л. Каробкінай, якая заказала яе выдавецтву "Арміта-Маркетынг Менеджмент". За што, натуральна, ёй павінны дзякаваць усе аматары харэаграфіі.

Э. Каралёва на падставе багатага матэрыялу па археалогіі, этнаграфіі, культуралогіі, мастацтвазнаўстве імкнецца зазірнуць у найстаражытныя часы, — ад узнікнення чалавецтва да першых вялікіх цывілізацый, — і разгадаць шматлікія загадкі мінулага. "Ужо больш за сто гадоў, — піша яна, — дзівосныя, незвычайныя наскальныя выявы жывёл, міфічных істот, пластычна выразныя ўвасабленні жаночых вобразаў, фантасмагарычныя кампазіцыі фігур у танцах, сцэны паляўнічых і ваенных танцаў служаць асновай розных тэорый паходжання чалавека, мастацтва, рэлігіі".

Перад вачамі гледачоў нібы ажываюць рытуальныя і паляўнічыя танцы эпохі палеаліту, пераломнага, у многім яшчэ цьмянага перыяду ў гісторыі чалавецтва.

Як мяркуе аўтар, у танцы той эпохі адлюстроўваліся найбольш значныя рысы культуры старажытнакаменнага веку. Сінкрэтычнае пантамімна-харэаграфічнае дзейства, увасобленае ў стылі натуралістычнага мастацтва, абапіралася на сімвалы, праз якія сцвярджалася тое, што яшчэ не магло быць выказана словамі. Танец вызначаў, па сутнасці, усе сферы жыцця людзей, іх унутраную, тады яшчэ ў многім падсвядомую псіхічную дзейнасць. У танцах першабытных земляробаў і жывёлаводаў адлюстравалася "неалітычная рэвалюцыя", якая кардынальна змяніла ўспрыманне чалавекам свету і, адпаведна, адносіны да такіх паняццяў, як нараджэнне, смерць, "замагільнае жыццё".

У кнізе даюцца цікавыя для харэографаў апісанні, звязаныя з культам Багіні-маці, увасобленай у самых розных сімвалах, якая з'яўляецца цэнтрам своеасаблівага мікракосмасу.

Але, магчыма, найбольшую ўвагу чытачоў прывабяць танцы першых вялікіх цывілізацый, старажытнаегіпецкай, крытамікенскай. На падставе вялікага ілюстрацыйнага матэрыялу паказана, якога высокага ўзроўню дасягае тэхніка танца, што выконваўся асабліва адоранымі людзьмі, — жрыцамі і жрацамі, а таксама прафесійнымі, прыдворнымі артыстамі цароў ды вяльможаў.

Вядома, не абмінае аўтар і багатую харэаграфію Старажытнай Грэцыі, апетую вялікім Гамерам:

*Юноши тут и цветущие девы,*
*желанные многим,*
*Пляшут, в хор круговидный любезно*
*сплетяся руками...*

*Пляшут они, и ногами искусными*
*то закружатся...*
*То разовьются и пляшут рядами,*
*одни за другими.*

Кніга насычана мноствам фактаў, якія адлюстравалі працэсы, што адбываліся на працягу тысячагоддзяў дапісьмовай гісторыі чалавецтва. Але дзіўна, што пры дапамозе гэтага матэрыялу Э. Каралёва натуральным чынам падводзіць чытача да досыць нязвыклай высновы: маўляў, роля танца, усеабдымная ў старажытнасці, паступова змяншаецца з развіццём цывілізацыі. "Ужо ў старажытных грэкаў, — піша Э. Каралёва, — танцы не мелі таго значэння, якое ім надавалася ў першабытна-абшчынных фармацыях і ў першых вялікіх цывілізацыях. Цяпер усё больш упэўнена танец падпарадкоўвала сабе слова".

Прасочваецца і яшчэ адна дзіўная заканамернасць: як толькі пачынае затухаць агмень культуры ў адным месцы, дык запальваецца ў другім. "Стваравецца ўражанне, што хтосьці нацiснуў на спускавую спружыну, і сканцэнтраваныя на золку чалавецтва першаэлементы мастацкай культуры, паўтараючы законы Сусвету, якi пашыраецца, прыйшлі ў паступальны рух, ствараючы адзіную сусветную культуру і мастацтва". Хто ведае, магчыма, гэтая думка аўтара з гіпотэзы калі-небудзь ператворыцца ў аксіёму. Прынамсі, можна не сумнявацца, што манаграфія Э. Каралёвай зацікавіць не толькі аматараў харэаграфіі.

**Юлія ЧУРКО,**
**доктар мастацтвазнаўства**

КІНО

# Духоўная рэвалюцыя ў Мінску?

***Вясной наступнага года чакаецца прэм'ера дакументальнага фільма "Дзеці Апалона" (рабочая назва). Гэта дэбют маладога беларускага рэжысёра Сяргея Патаранскага. Яшчэ чатыры гады назад ён быў асістэнтам А. Канеўскага на яго апошнім фільме "Дрэва вечнасці". Цяпер С. Патаранскі здымае самастойна. Пасля доўгіх пошукаў сродкаў, ідэяй яго фільма нарэшце зацікавілася незалежная відэастудыя "Пэн-цэнтр". За плячыма ўжо палова працы.***

На думку С. Патаранскага, сёння ў нашай краіне адбываецца духоўная рэвалюцыя, своеасаблівы ўсплёск творчай энергіі. Занепад беларускай культуры, асабліва кіно, яшчэ не выключае існавання таленавітай моладзі. Невыпадкова з'явіліся новыя літаратурныя аб'яднанні "Бум-Бам-Літ", "Наша ніва", "ТВЛ", "Новый век". У сваім першым фільме С. Патаранскі вырашыў папулярызаваць усе гэтыя паэтычныя пошукі. "Мне хацелася б, каб мае будучыя гледачы паразважалі, а ці маю я рацыю, калі праектую ўнутраны канфлікт адной літаратурнай суполкі на ўсё грамадства, — расказвае рэжысёр. Нерв фільма — гэта пытанні: чаму адзін з паэтаў піша на беларускай мове, а другі па-руску? Чаму адзін шукае шчасце ў Нью-Йорку, а другі ў Пецярбургу? Дзеля чаго жыць такімі марамі, калі ты грамадзянін Беларусі? Ці не разменьваешся на дробязі?"

Дзеці Апалона — гэта сучасныя паэты, большасць з якіх уваходзіць у літаратурную суполку "Новый век" (другая назва — "Арт-салон"). У свой час студэнт сцэнічнага факультэта Інстытута культуры, вучань А. Дударава Анатоль Шурпін згуртаваў вакол сябе творчую моладзь: паэтаў, музыкантаў, мастакоў. "Новый век" — арганізацыя элітарная. Яна не захацела ісці па шляху "Першацвета" ці "Маладняка", дзе збіраюцца ўсе, хто можа пісаць. У "Арт-салон" уваходзяць ужо сталыя творцы. Гэта Анатоль Шурпін, які прыехаў у сталіцу з вёскі, Дзіма Балабанаў, паэт, як лічыць С. Патаранскі, непаўторны, бо ён пазбаўлены ў сваёй паэзіі налёту перайманнасці. Балабанаў вельмі самабытны, яго ні з кім не зблытаеш. Гэта і Рома Раманаў, Бенька (псеўданім адной дзяўчыны, якая піша ў стылі Жуля Сюпервіля, такая сюррэалістычная містыка). А таксама Наташа Царык і Наташа Кучмель — неафіцыйны настаўнік творчай моладзі. Дзякуючы ёй, і С. Патаранскі пачаў пісаць свае вершы. Цікава, што ў сваім фільме ён выводзіць і сябе як аднаго з паэтаў. Аднак рэжысёр імкнецца адасобіцца ад сваіх герояў, а таксама і ад самога сябе. Тым больш, што С. Патаранскі-паэт і С. Патаранскі-рэжысёр — гэта розныя людзі.

"У тэатры я прыхільнік голай сцэны, таму у цэнтры майго фільма — жывы чалавек са сваімі думкамі і памкненнямі. Праблема нашых класікаў — Коласа, Купалы — у тым, што з іх зрабілі муміі, помнікі... Школьнікі таму, часам, і не разумеюць іх паэзіі. Калі будзе чалавечнасць, будзе і мастак. Не будзе чалавечнасці — застанецца толькі танная маска. Таму ў фільме чалавечы пачатак быў для мяне асноўным. Спадзяюся, што я не пралічыўся".

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

МУЗЫКА

# Ключ да сусветназначнага

***Здаецца, і дзесяці гадоў яшчэ не прайшло з той пары, калі рэлігійнай музыкі ў нашым канцэртным жыцці быццам і не існавала. Творы, прысвечаныя гэтай тэме, публічна амаль не выконваліся, кампазітары да яе не звярталіся. Але раптам усё змянілася, рэлігія заняла належнае месца ў грамадстве, а для творцаў адчыніліся дзверы ў прастору рэлігійнага мастацтва. І вось з'явіліся прадстаўнікі новай генерацыі беларускіх кампазітараў, якія стала працуюць у жанрах духоўнай музыкі.***

***Нядаўна ў камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, што на Залатой Горцы, адбыўся канцэрт пад рубрыкай "Вечары царкоўнай музыкі", праграма якога складалася з узораў сучаснай беларускай творчасці — ужо вядомай "Нясвіжскай імшы", напісанай А. Залётневым паводле старадаўніх рукапісаў Шымкевіча, і прэм'еры "Усяночнага дбання" А. Хадоскі. З аўтарам новага твора Алегам ХАДОСКАМ — наша размова.***

**— Алег, год таму выконваўся твой папярэдні твор — "Літургія Іаана Залатавуста", дзе ты ўпершыню дачыніўся да артадаксальных тэкстаў і ўвасобіў іх у гуках. Чаму цябе так цікавіць хрысціянства?**

— Перш за ўсё, я — праваслаўны хрысціянін, і гэтая тэматыка мяне цікавіць даўно, а па-другое, я пачаў працу над новым творам па непасрэднай просьбе мастацкага кіраўніка Мінскага абласнога камернага хору "Санорус" Аляксея Шута. Напісаўшы "Літургію", я думаю, што мусіць прайсці нейкі час, перш чым я пачну рабіць нешта новае і значнае, але Аляксей Аляксандравіч Шут не дазволіў мне гэтай паўзы і прапанаваў адразу пачаць працаваць над наступным творам, за што я вельмі ўдзячны яму.

**— Мне падаецца, што ў рэлігійнай музыцы існуюць пэўныя межы жанру, за якія выходзіць нельга. Ці абмяжоўвала гэта цябе, калі ты працаваў над партытурай, альбо наадварот, спрыяла ўнутранаму пачуццю свабоды?**

— Вядома, што праваслаўная традыцыя адрозніваецца ад каталіцкай, у якой спектр музычных выразных сродкаў выкарыстоўвацца кампазітарамі больш свабодна. У праваслаўнай музыцы гэтага няма, я мусіў быў прытрымлівацца строгіх канонаў, але мне хацелася карыстацца мовай нашага часу, таму ў маім "Усяночным дбанні" ёсць і поліфанія пластоў, і санарыстычныя моманты, уласцівыя менавіта музыцы XX стагоддзя. Гэта было адной з маіх звышзадач.

**— Сярод кампазітараў нашага стагоддзя, у творчасці якіх была бліскуча ўвасоблена хрысціянская праваслаўная тэма, безумоўна, вылучаецца імя геніяльнага Сяргея Рахманінава — я маю на ўвазе яго "Усяночнае дбанне". Ці можна неяк суаднесіць твор, які належыць твайму пяру, з музыкай вялікага папярэдніка?**

— "Усяночнае дбанне" Сяргея Рахманінава зрабіла на мяне вельмі моцны ўплыў. Я лічу, што гэта першы літургічны харавы твор, напісаны нібыта па-аркестраваму, палітра якога складаецца са шматлікіх гукавых фарбаў. Гэты метад я імкнуўся выкарыстоўваць пры напісанні ўласнага твора. Але калі ў музыцы Рахманінава шмат цытат традыцыйных знаменных распеваў, то ў мяне гэтага ўвогуле няма, я хацеў зрабіць толькі стылізацыю.

**— Алег, я ведаю, што інтэрпрэтатар тваёй музыкі Аляксей Шут заўсёды з вялікім энтузіязмам ставіцца да партытур, якія яму прапануюць беларускія аўтары, у кожны твор ён укладае вялікую частку свайго сэрца...**

— Так. У харавой беларускай музыцы гэта, здаецца, адзіны чалавек, які дае імпульс, штуршок кампазітарам, каб яны пісалі новыя творы, і заўсёды ставіцца да гэтых твораў вельмі беражліва. Спачатку ён іх дэталёва вывучае, шмат кансультуецца з кампазітарамі, нешта змяняе, і толькі потым пачынае рэпеціраваць з хорам. Я вельмі задаволены супрацоўніцтвам з хорам "Санорус" і самім маэстра Аляксеем Шутам.

**— Маркуючы па водгуках, прэм'ера мела поспех. Віншую, Алег!**

**Алесь ВОЛЬША**

## Не толькі захавала...



**Не толькі захавала, а і значна папоўніла спадчыну маці і бабулі Марыя Радзівонаўна Півавар з Петрыкаўскага раёна. Мінула 70 гадоў жыцця, і сёння пра іх нагадваюць сатканыя рукамі дываны і пакрывалы, посцілкі і ручнікі.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## У быцці і творчасці разам



**Тэкстыль і габелен прадставілі на сваёй выставе Антаніна і Генадзь Фалей — выкладчык кафедры дызайна Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта і мастак тэкстыльнага аб'яднання "Віттокс". Яна адкрылася ў выставачнай зале Беларускага Саюза мастакоў у Віцебску.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Тэатр — яго жыццё



**Дзяржаўны музей гісторыі тэатра і музыкі Беларусі адкрыў чарговы сезон музычна-тэатральных сустрэч. Ва ўтульнай канцэртнай гасцёўні, якая носіць імя Уладзіслава Галубка, праходзяць творчыя вечары вядомых майстроў беларускага мастацтва, цікавыя выставы і імпрэзы, сольныя канцэрты маладых выканаўцаў. Тут збіраецца "Клуб аматараў тэатра". На адну з такіх сустрэч быў запрошаны вядучы артыст Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага Расціслаў Янкоўскі.**

**Вядомы артыст з захапленнем распавядаў пра тое, як у 1957 годзе ён быў запрошаны ў трупу Рускага тэатра, пра ролі, сыграныя ім на сцэне, пра работу ў кінематографе.**

**Так, тэатр — гэта яго жыццё. У час дыскусіі акцёр адказаў на шматлікія пытанні, расказаў пра спецыфіку работы на Малой сцэне... Прысутныя шчыра віталі любімага артыста. Жадаючым атрымалі аўтограф.**

**У фондах Дзяржаўнага музея гісторыі тэатра і музыкі Беларусі беражліва захоўваюцца фотаздымкі, афішы і праграмы, перададзеныя Расціславам Янкоўскім, звязаныя з яго творчай дзейнасцю.**

**Наталля ІВАНОЎСКАЯ**

*Фота А. ПЕРУНОВА*

МЕРКАВАННЕ

# Праклён катэджам і хвала іх уладальнікам

Якіх толькі не пачуеш крыўдных слоў у адрас уладальнікаў катэджаў, якіх паўсюднa нарасло, як грыбоў у лесе пасля цёплага дажджу. Гэта злодзеі ў "законе" і махляры, хабарнікі і хапугі, словам тое "жульё", якое расцягнула, разрабавала і параскрадала ўсё, што ствараласл гадамі агульнымі сіламі.

А калі ўсё ж падумаць? Мо гэта самая жыццяздольная, прадпрымальная і дзелавая частка нашага грамадства, якая з'яўляецца рухаючай сілай прагрэсу? І мо трэба дзякаваць Богу, што за гады "казарменнага сацыялізму", у якім ініцыятыва і прадпрымальнасць караліся, гэтыя высакародныя якасці не вынішчыліся, захаваліся ў людзях?

Можна ўявіць, якія б гэтыя людзі тварылі эканамічныя цуды, калі б дзеля гэтага былі створаны неабходныя ўмовы. Можна быць упэўненым, што свае сродкі яны не ўкладвалі б, як цяпер высветлілася, у непатрэбную нерухомасць (пра гэта будзе ніжэй), а ў такую дынамічную справу, якая прыносіла б ім новыя дывідэнды, прыбытак. Было б няблага і дзяржаве, і самім гаспадарам. Таму шыкоўныя катэджы, якія так мазоляць вочы многім, не віна іх уладальнікаў, а бяда.

Канешне, сярод іх ёсць і такія, якіх трэба аднесці да таго самага "жулья". Але дзе, скажыце, у якіх сферах абыходзіцца без казнакрадства? Аднак там гэта не вызначае агульнага малюнка. Чаму ж такая непрымірымасць у дадзеным выпадку?

Добра, у прадпрымальніцтве, ініцыятыве, дзелавітасці ім не адмовіш, пагодзіцца хтосьці. Але адкуль у іх узяліся сродкі, каб будаваць палацы? І дадасць: я ўсё сваё жыццё працаваў добрасумленна (і пацвердзіць узнагародамі, ганаровымі званнямі), а залатых гор не нажыў...

Што тут можна сказаць? Напэўна, некаторыя людзі ўмеюць рабіць грошы з паветра. Гавораць жа пра нас заезджыя бізнесмены з далёкага замежжа: "Вы ж ходзіце па грашах, варта толькі нахіліцца..." І сапраўды, у нас мноства праблем, але не менш, а можа, больш, як гучыць гэта ў прамовах прэзідэнта, нявыкарыстаных рэзерваў. Дык, можа, тыя самыя "злодзеі" і "хапугі" якраз і не лянуюцца нахіліцца і паднясць тое, што валяецца пад нагамі, не ў прыклад тым, хто фанабэрыста заяўляе: мне досыць таго, што ёсць, большага мне й не трэба...

Можна пачуць і такое: у свой час нахапаліся льготных крэдытаў. Мабыць, сапраўды такое было. Але што такое "льготныя крэдыты"? Хіба гэта не тое, што валяецца пад нагамі? Калі так, то толькі лянівы не нахіліцца, каб паднясь яго. А што датычыць таго, наколькі яны справядлівыя і каму дасталіся — справа іншая. Калі ёсць тут крымінал, то за гэта трэба спытаць з тых, хто яго дапусціў.

І яшчэ адзін аргумент, які, звычайна, выстаўляецца супраць уладальнікаў катэджаў: "Дзеля каго яны стараюцца? Толькі дзеля сябе..."

Прабачце, але дзеля каго чалавек яшчэ павінен старацца? Дзеля грамадства? Дзеля дзяржавы? Але ж такое ўжо было. Па дадзеных сацыёлагаў, тады 70% ад заробленага ішло дзяржаве і толькі 30% — працаўніку, мінус ад гэтага падатак, "добраахвотная" пазыка, іншыя адлічэнні на грамадскія інтарэсы.

І што з таго выйшла? Ні моцнай дзяржавы (інакш яна не развалілася б), ні заможных грамадзян (інакш столькі нас не жыло б сёння ніжэй рысы беднасці). Як сведчыць сусветны вопыт, было б па-другому, калі б было наадварот: 70% ад заробленага ішло працаўніку, а 30% — дзяржаве, як гэта робіцца ў цывілізаваных краінах. Тады б заможнымі былі і грамадзяне, і дзяржава магутнай. Бо там, дзе грамадзяне вымушаны весці жабрачае жыццё, не можа быць моцнай дзяржавы. І сведчанне таму — былы СССР.

І ўсё ж катэджны бум заслугоўвае самага суровага асуджэння. Калі хочаце, ён зрадні такім глабальным памылкам, як бяздумная меліярацыя і ў гады "халоднай вайны" гонка ўзбраенняў.

У першым выпадку, каб кампенсаваць неэфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці, кінуліся ў расшырэнне пасяўнога кліна шляхам асушэння балот, знішчэння малых рэк і азёр, чым нанеслі непапраўную шкоду прыродзе; у другім — у сапернічстве з краінамі НАТА столькі нарабілі ўзбраенняў, танкаў і ракет, што цяпер яны нікому непатрэбныя.

Пакуль няма статыстычных даных, колькі зямлі "акупавалі" дачнікі. Аднак, калі меркаваць па тых стракатых гарадках, што сцяной абступілі чыгункі, шасэйныя дарогі

# Нацыяналізм

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Ніводзін народ не мае больш патрэбы стаяць на варце супраць гэтай пагрозы, як мы, палякі". І яны сталі, прычым так, што не ўпускалі аніводнага выпадку, каб на ўсходзе пашырыць свой культурна-моўны ўплыў на тых жа самых да канца неасіміляваных беларусаў.

Аднак пры ўсім старанні адвесці ад сябе магутныя хвалі русіфікацыі этнакультурныя страты зведалі і палякі. І гэта зусім натуральна, бо яшчэ аніводнаму народу не ўдалося выратавацца ад асіміляцыі тытульнай нацыі, жывучы разам з ёю ў поліэтнічнай краіне. Палякаў можна пахваліць толькі за тое, што ў іх такія страты ў перыяд знаходжання ў складзе Расіі былі непараўнальна меншыя, чым ва ўкраінцаў і беларусаў, што тлумачылася шэрагам важкіх прычын і аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, але толькі не слабінкай з боку царскай улады, асабліва ў канцы XIX — пачатку XX ст. Самы артадаксальны выразнік не нацыянальнай палітыкі, прафесар П. Кавалеўскі так пісаў: *"Палякі, як і ўсе іншародцы ў Расіі, тады толькі могуць разлічваць на раўнапраўнасць у Расіі, калі яны на справе дакажуць, што яны перш за ўсё рускія, а затым палякі, армяне і інш".*

### 3. ПАДТРЫМАНЫ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯЙ

Складанасць арганізацыі жыцця народаў шматнацыянальнай Расіі прыцягвала да сябе ўвагу палітыкаў і вучоных самых розных поглядаў. І як вынік, па дадзенай праблеме з'явілася безліч публікацый. І што характэрна: чым больш рашуча нярускія народы змагаліся за свае нацыянальныя інтарэсы, тым больш напорыста аўтары гэтых публікацый абаранялі і апраўдвалі шавіністычны характар царскай палітыкі. Рускі нацыяналізм узводзіўся ў самы высокі ранг дзяржаўнага жыцця, не падлягаў аніякай крытыцы ў афіцыйным друку. Сярод старога вытрымнаў у такім духу дарэвалюцыйнай літаратуры заслугоўваюць быць названымі наступныя працы: Салаўёў У. С. "Национальный вопрос в России"; Локаць Т. "Оправдание национализма"; яго ж — "История России с национальной точки зрения"; Кавалеўскі П. І. "Национализм и национальное воспитание в России в двух частях"; "Национализм и религия Достоевского (Доклад, прочитанный на заседании "Союза возрождения России"); "Националисты в 3-ей Государственной Думе". Да многага з таго, што сказана вышэйзгаданымі аўтарамі і іх шматлікімі аднадумцамі па дадзеным пытанні, не можам не прыслухацца, хаця і з вялікім спазненнем, і мы, беларусы. Цалкам адхіляючы пашыраны сярод іншародцаў выраз: "Рускія нацыяналісты-людаеды", дарэвалюцыйны рускі прафесар П. Кавалеўскі так адказваў ім: "Рускія нацыяналісты — людзі, якія ў сапраўднасці ўсёй душой любяць сваю радзіму і сваю нацыю, паважаюць яе мінулае і жадаюць ёй славы, магутнасці і велічы ў будучым. Такімі рускія былі, ёсць і будуць на векі вякоў". Карані рускага нацыяналізму гэты вучоны шукаў у самых адметных падзеях і фактах айчыннай гісторыі, у біяграфіях яе самых слынных сыноў і дачок. На яго думку "першая яўная і рэзкая праява нацыяналізму сустракаецца ў асобе імператара Пятра І... Другім вялікім нацыяналістам рускай зямлі з'яўляецца дастойны вучань Пятра, народны геній — Ламаносаў". Як бачым, да ліку піянераў рускага нацыяналізму П. Кавалеўскі аднёс самых паважаных у Расіі людзей.

Рускія палітыкі і вучоныя не лічылі, што пачуццё нацыяналізму ўзнікае, умацоўваецца ў народзе стыхійна, спантанна. Наадварот, нацыяналізм, на іх думку, нараджаецца, пераўтвараецца ў магутную сілу грамадства толькі шляхам правядзення адпаведнай работы, асабліва з маладымі пакаленнямі, у чым рускія навучальныя ўстановы, праваслаўная царква мелі вельмі багаты вопыт. У яго абагульненне і ўзбагачэнне ўнеслі немалы ўклад вядомыя аўтарытэты ў навуцы і педагогіцы. Сярод іх можна назваць і вучонага-хіміка, стваральніка перыядычнай сістэмы элементаў Дзмітрыя Мендзялеева (1834—1907), якому належыць такая слушная думка: "Школа ўяўляе велізарную сілу, якая вызначае быт і лёс народаў і дзяржаў". Гэтую думку сусветна вядомага вучонага-хіміка цалкам падтрымліваў прафесар П. Кавалеўскі і з мэтай надання ёй практычнага характару даводзіў усім тым, чыя дзейнасць была звязана з асветай, што *"выхаванне і адукацыя дзяцей грамадзян рускай народнасці павінна праводзіцца ў духу рускай народнасці і быць чыста рускім нацыянальным".* Калі б на гэтую справу зусім інакш глядзелі свецкія і духоўныя ўлады царскай Расіі, ні за што не з'явілася б у друку праца П. Кавалеўскага "Национализм и национальное воспитание в России в двух частях". Яе аўтар не збаяўся заявіць і такое: "Лепш невуцтва, сагрэтае любоўю да радзімы, чым адукацыя, звязаная з пагардай і непавагай да нацыі". Разумеецца, да нацыі сваёй. Каб яшчэ лепш пераканаць дзяржаўных дзеячаў, педагагічную інтэлігенцыю ў неабходнасці і мэтазгоднасці строга прытрымлівацца патрабаванняў нацыянальнай сістэмы адукацыі, сваю кнігу ён заканчвае такімі словамі: "Вялікая задача нашых педагогаў настойліва культываваць у рускіх дзецях іх рускія нацыянальныя рысы і ліквідоўваць усё, што будзе іх цягнуць на глебу касмапалітызму".

Добра разумеў ролю нацыянальных пачаткаў у дзейнасці навучальных устаноў папячыцель Віленскай вучэбнай акругі І. Карнілаў. Да выканання гэтых функцый ён прыступіў у час, калі на Беларусі вялася жорсткая расправа з удзельнікамі паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім, выкаранялася з усіх сфераў грамадскага жыцця польская мова і на яе месца ўводзілася руская, польская сістэма адукацыі замянялася рускай. І. Карнілаў меў цвёрдае пераканане, што "школа павінна служыць свайму народу і дзяржаве і таму павінна быць нацыянальнаю і патрыятычнаю", што "для ўздыму ў Расіі навучальна-выхаваўчай справы, неабходна, каб персанал — што выхоўвае і навучае, — складаўся з надзейных рускіх праваслаўных людзей". Няцяжка зразумець, якую каласальную працу па разбурэнні нацыянальнай самасвядомасці беларускіх дзяцей ажыццявіў І. Карнілаў, кіруючы ў нашым краі дзейнасцю навучальна-выхаваўчых устаноў. Не адбылося якіх-небудзь пазітыўных пераменаў у поглядах на дадзеную праблему і ў пераемнікаў І. Карнілава. "Малодшаму брату" рускага народа — беларусам царызм дазволіў адкрываць пачатковыя школы на іх роднай мове толькі ў 1914г., г. зн. у год, калі грымнула Першая сусветная вайна. І тут нам, як на злосць, не пашанцавала.

Зусім не шкодзіла б сучасным беларускім палітыкам і блізкім да іх ідэолагам азнаёміцца з тым, як расійскія нацыяналісты *разумелі ролю самой дзяржавы* ва ўсталяванні нацыяналізму ў грамадстве. Пачнём з рускага эканаміста і філосафа Пятра Струве, які ў такой гранічна сціслай форме выказаўся па дадзеным пытанні: *"Дзяржаўная магутнасць* немагчыма па-за ажыццяўленнем нацыянальнай ідэі... Дзяржава і нацыя павінны арганічна зліцца". Яшчэ далей у гэтым пытанні ішоў яго сучаснік прафесар Т. Локаць, аўтар кнігі "Оправдание национализма". Ён катэгарычна заяў-

і вёскі, можна ўявіць — нямала. І трапілі сюды не толькі наўдобіцы, як гэта было напачатку, але і ўрадлівая ворная зямля, якую раней сяляне пакідалі пад пшаніцу і жыта. І гэта ў той час, калі пасяўны клін мае пастаянную тэндэнцыю да звужэння. Пайшлі пад нож і вясковыя выганы, без якіх сялянам, як без тых вады, ні туды і ні сюды — няма дзе навязаць цяля ці казу, выгнаць з двара гусей, папасвіць свінчо. Калісьці ў адной краіне авечкі з'елі сялян, у нас такімі авечкамі з'явіліся дачнікі. І гэта не можа не выклікаць своеасаблівага антаганізму паміж вяскоўцамі і ўладальнікамі дач.

Вядома, пакуль краіна ў стане крызісу, дачна-катэджнае гаспадаранне робіць пэўны ўклад у змякчэнне харчовых дэфіцытаў. Гэта адзначаецца і ў афіцыйных статыстычных зводках.

Але ж, трэба думаць, не заўсёды будзе так. Рана ці позна, тым ці іншым шляхам, сельская гаспадарка здолее выконваць сваю функцыю — поўнасцю забяспечыць сваёй прадукцыяй горад, у тым ліку гароднінай і садавінай, якія сёння вырошчваць калгасам і саўгасам не пад сілу.

Які тады будзе сэнс корпацца з дапамогай рыдлёўкі, матыкі і вілаў на сваіх зямельных лапіках, душыцца ў перапоўненых аўтобусах і электрычках, калі можна пайсці ў магазін і набыць усё, што душа пажадае?

Да таго ж, галоўнай рабочай сілай на ўчастках з'яўляюцца пажылыя людзі, пенсіянеры, здароўе і сілы якіх на зыходзе. Моладзь жа сюды не заманіш ніякімі спосабамі. Яна перакананая, што ў век космасу і электронікі здабываць "пропитание" па-дзікунску чалавеку не да твару.

Тэндэнцыя пастаяннага падаражання праезду, цяжкасці з набыццём угнаенняў, без чаго зямля не можа радзіць бясконца, і іншае ствараюць абстаноўку, калі аўчынка становіцца не вартай выйрабу.

Вось чаму, калі напачатку не было адбою ад жадаючых набыць зямельныя ўчасткі (начальства чухала патыліцу, дзе знайсці незанятыя землі), то сёння яно сумуе па тых надакучлівых заявах і просьбах.

Аб расчараваннях у дачах сведчыць і той факт, што ўсё больш з'яўляецца аб'яў аб продажы катэджаў і дачных участкаў. Аднак набыць гэтае шчасце дужа не кідаюцца. Ужо нярэдкія выпадкі, калі ўчасткі не абрабляюцца, зарастаюць пустазеллем і бур'яном.

А ў што абыходзяцца самі катэджы з пункту гледжання эканамічнага? Па словах відных будаўнікоў-архітэктараў, якія аднойчы выступалі па тэлебачанні, за будаўнічыя матэрыялы, укладзеныя ў катэджы, прыкладна на 80% можна было б вырашыць жыллёвую праблему.

Яшчэ служылі б яны жытлом! Аднак нічога падобнага не назіраецца. Гаспадары праводзяць там дзень-два і да пабачэння — коцяць назад у горад. І стаяць казачныя палацы і церамы халоднымі дамамі, як трапна называюць іх вяскоўцы.

Дык чым гэта не тая самая з'ява, як было з бяздумнай меліярацыяй або з той самай ваеннай тэхнікай учарашняга дня, цяпер нікому непатрэбнай?

А ўсё гэта атрымоўваецца таму, што няма ў нас гаспадара-ўласніка. Ну, хіба магчыма была б парэзаць на "лапікі" каштоўную ворную зямлю, калі б яна знаходзілася ў руках гаспадара-ўласніка? Ды ён бы жыццё палажыў за яе, перш чым аддаў бы на здзек.

Іншая справа, калі яна — нічыйная, г. зн. дзяржаўная, народная. Вядома ж, якія адносіны да нічыйнага — больш узяць, урваць, не задумваючыся, што будзе потым. Калі і прападзе, то не шкада — не сваё ж.

Вось так і з нашымі праслаўленымі катэджамі, якія па сутнасці сталі "ні богу свечка, ні чорту качарга", а перспектыва зямель, якія яны адхапілі, больш чым сумная.

**Я. ІВАНОВІЧ**

*г. Мінск*

# Аляксандр КІШЧАНКА

Беларуская культура панесла цяжкую страту. 11 лістапада на 65-м годзе пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій рэспублікі Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка. Не стала выдатнага майстра, грамадзяніна і цудоўнага чалавека, які ўсе свае сілы і талент аддаў зямлі беларускай і яе людзям.

Ён нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Белы Калодзеж Багучарскага раёна Варонежскай вобласці. Тут, у Прыдонні, прайшло яго дзяцінства і юнацкія гады. Прафесіянальную адукацыю Аляксандр Міхайлавіч атрымаў у Львоўскім дзяржаўным інстытуце прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва.

У 1963 годзе мастак прыехаў у Беларусь, дзе шэраг гадоў выкладаў на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага жывапісу мастацкага факультэта БДТМІ, адначасова актыўна займаючыся творчасцю і арганізацыяй габеленавай вытворчасці ў рэспубліцы.

У шэрагу сучасных мастакоў А.М. Кішчанка — тварэц, якому належыць асаблівае месца. У мастацтве ён — з'ява шматгранная, якая выклікае не толькі захапленне, але і здзіўленне. Яго творчая спадчына складаецца з сотняў твораў, таленавітых і разнастайных: жывапісец-віртуоз, майстар філасофскіх карцін і партрэтаў; манументаліст, які цудоўна валодаў тэхнікамі мазаікі, керамікі і габелена, выдатны рысавальшчык і каларыст, мастак, які пастаянна шукаў уласную сістэму пабудовы прастор, свой пластычны стыль, заснаваны на ўзаемадзеянні двух асноў: сімволікі, уласцівай прынцыпам манументальнай творчасці, і канкрэтнай жыццёвай пераканаўчасці вобразаў.

У гісторыі мастацтва застануцца яго жывапісныя роздумы аб часе і краіне: застануцца яго мазаічныя пано, якія ўпрыгожылі сталічныя будынкі мікрараёна "Усход-1", гасцініцу "Турыст", праектны інстытут на Юбілейнай плошчы, роспіс у Місхоры, манументальныя габелены ў зале эканамічнага і сацыяльнага Савета ААН у Нью-Йорку, у Мінскім музычным вучылішчы імя М. І. Глінкі і тэатры музычнай камедыі, іншых дзяржаўных і грамадскіх установах. Ён — аўтар унікальнага "Габелена веку" — гэтай своеасаблівай "зорнай шпалеры", твора, які несумненна ўвойдзе ў гісторыю сусветнага мастацтва.

Аляксандр Міхайлавіч Кішчанка пайшоў з жыцця



на грэбені сваёй творчасці і вопыту. Але ён многае паспеў зрабіць, многаму навучыў іншых. Над якой бы тэмай і ў якім жанры або відзе мастацтва ён ні працаваў, галоўным для яго заставалася высокае прызначэнне творчасці, яго спрадвечна гуманістычная місія. І мастацтва А. М. Кішчанкі дастойна несла гэту місію.

Мастак высокага і светлага таленту, добрай і шчодрай душы, першаадкрывальнік новых сусветаў у мастацтве, ён застанецца назаўсёды і ў гісторыі айчыннай культуры, і ў памяці ўдзячных людзей, дзеля якіх ён жыў і тварыў.

**А. Р. Лукашэнка, С. С. Лінг, П. У. Шыпук, А. А. Малафееў, М.У. Мясніковіч, У.П. Замяталін, А.У. Сасноўскі, У.В. Ярмошын, М. М. Яроменка, Г. В. Буралкін, Б. Ф. Герлаван, Г.Х. Вашчанка, В. А. Грамыка, Л. М. Гуміleўскі, М. В. Данцыг, А.М. Кашкурэвіч, Г.Г. Паплаўскі, М. А. Савіцкі, У. І. Стальмашонак, Я. Р. Чамадураў, Л. Д. Шчамялёў, І. В. Волчак, М. П. Дрынеўскі, А. А. Дудараў, Л. С. Екель, В. В. Зуёнак, Я. М. Кавалеўскі, І. М. Лучанок, Д. А. Сурскі.**

ляў, што ў Расіі *"дзяржаўная ўлада павінна быць нацыянальнай рускай!..*, што ўсяляк трэба ахоўваць палітычныя інтарэсы карэннай нацыянальнасці, пакуль карэнная нацыянальнасць не згуртуецца палітычна..." Не збіраўся адставаць ад іх П. Кавалеўскі, заяўляючы: "Усялякая дзяржава жывая і дзеючая павінна быць поўнай нацыяналізмам. Гэта яе душа. Гэта яе сутнасць. Гэта яе жыццё. Касмапалітычная дзяржава аморфная, бясформная маса".

Не сакрэт, што вельмі многім беларусам характэрна адсутнасць такога высакароднага пачуцця, як нацыянальна-дзяржаўная свядомасць. Прычым гэтая хвароба ўласціва нават прадстаўнікам самой дзяржаўнай улады, элітарнай інтэлігенцыі. Іх практычна зусім не хвалюе, што палітычная інтэграцыя з Расіяй у канчатковым выніку прывядзе да ўзмацнення дзяржаўнага суверэнітэту апошняй за кошт аслаблення такога суверэнітэту Рэспублікай Беларусь. Яе палітыкам варта было б пазнаёміцца з тым, як на ролю дзяржавы некалі глядзелі рускія нацыяналісты, будучы моцна занепакоенымі тым, каб яна не аслабла ў барацьбе нярускіх народаў за сваё нацыянальна-культурнае адраджэнне. Першым аб'яднальным элементам рускага народа яны лічылі самадзяржаўе, другім — праваслаўе. Каб не аслабіць ролі дзяржаўнага фактару ў лёсе рускага народа, прафесар П. Кавалеўскі папярэджваў усіх і кожнага такімі палымянымі выказваннямі: "... з заняпадам самадзяржаўя занепадала і Расія", "Усялякае парушэнне самадзяржаўя зараз жа мае вынікам за сабой падрыў дабрабыту нацыі і моцы дзяржавы", "...рускі народ не можа дзяржаўна існаваць без самадзяржаўя". Будучы зацікаўленым у яго магутнасці, П. Кавалеўскі прапаноўвае наступнае: "*...усе вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы і ўсе месцы начальнікаў установы павінны быць заняты людзьмі рускімі, шчыра прасякнутымі духам нацыяналізму*".

Па розных прычынах далёка не ўсім ідэолагам рускага нацыяналізму ўдалося ўтрымацца на правільных пазіцыях. З-за празмернага жадання выслужыцца перад царызмам ці паводле ўласных перакананняў некаторыя вучоныя і палітыкі ў гэтым пытанні з цягам часу адкрыта сталі на пазіцыі рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. У іх ліку апынуўся і П. Кавалеўскі, пішучы: *"Кожны, хто добраахвотна перасяліўся ў Расію з мэтай карыстання яе выгодамі, хто б ён ні быў, павінен пакінуць сваю колішнюю нацыянальнасць за мяжою Расіі, у Расіі ён павінен стаць рускім, — у супрацьлеглым выпадку яму няма месца ў Расіі"*, што да апошняй "могуць быць зроблены прырашчэнні (тэрытарыяльныя. — **Л. Л.**) — але памяншэнне недапушчальна і немажліва", што "народнасці з ніжэйшай культурай павінны зліцца з рускімі". Бясконца парадаваў П. Кавалеўскі рускіх вялікадзяржаўнікаў і такою фразаю: "*...хто жадае ў Расіі стаць роўным рускаму, той павінен стаць духам — рускім*".

Перад тымі, хто адкрыта называў сябе рускімі нацыяналістамі, не была зачынена нават зала пасяджэнняў Трэцяй Дзяржаўнай думы, дзе яны мелі сваю фракцыю. Пасля таго як апошняя ў кастрычніку 1909 г. злілася з умерана-правымі і атрымала афіцыйную назву "Рускія нацыяналісты", у ёй налічвалася каля ста чалавек. Яе галоўны лозунг — "Расія для рускіх". Думская фракцыя "Рускія нацыяналісты" актыўна супрацоўнічала з заснаваным у лютым 1910 г. Усерасійскім нацыянальным клубам. У іх планах побач з іншымі было і патрабаванне русіфікацыі нацыянальных ускраін, якія і да гэтага ўжо паспелі шмат страціць адметнага, спецыфічнага, мелі шмат праблем з захаваннем свайго карэннага насельніцтва як самабытнага этнасу.

На трывалым падмурку нацыяналізму паспяхова вырашалі свае палітычныя, сацыяльна-палітычныя і культурныя патрэбы ўсе буйныя этнасы Еўропы. І ў каго такі падмурак быў мацнейшым, той дасягнуў найбольшага набытку для сваёй айчыны. Паводле трапнага і справядлівага выразу цытаванага вышэй прафесара П. Кавалеўскага, "веліч Францыі ішла побач і адпаведна напружана з напружаннем нацыяналізму". Добра разумеючы ролю апошняга, улады еўрапейскіх краін усяляк садзейнічалі ўмацаванню яго пазіцый у грамадстве. Прычым найбольшую ўвагу звярталі на маладыя пакаленні. У той жа Францыі ўжо дзецям 6—7-гадовага ўзросту даводзілі, што французская нацыя — перш за ўсё. У адной са спецыяльна складзеных для настаўнікаў пачатковых школ інструкцый гаварылася, што школьніку "трэба паказаць, што толькі ў нацыі чалавек ажыццяўляе цалкам сваю прыроду, што толькі ў ёй ён робіцца сапраўдным чалавекам, г. зн. маральнай істотай". Каб узняць на належную вышыню ролю нацыянальнага фактару, урад Францыі ў 1886 г. прыняў закон, у адпаведнасці з якім загадчыкамі і настаўнікамі пачатковых школ маглі прызначацца толькі асобы французскай нацыянальнасці. Нешта падобнае назіралася і ў іншых краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. У выніку ў іх вельмі інтэнсіўны, маштабны характар набылі ўнутрыэтнічныя кансалідацыйныя працэсы, фармаваліся народы з трывалай нацыянальнай самасвядомасцю.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

# Аляксандр ХАРКЕВІЧ

Беларускае сцэнічнае мастацтва панесла цяжкую страту. У ноч з 6 на 7 лістапада 1997 года трагічна загінуў дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Аляксандр Іосіфавіч Харкевіч.

Нарадзіўся А. І. Харкевіч 3 чэрвеня 1950 года ў Віцебску. Закончыўшы сярэднюю школу, у 1968 годзе паступіў у студыю пры тэатры імя Якуба Коласа. Пасля службы ў Савецкай Арміі вярнуўся ў тэатр, працаваў спачатку мантыроўшчыкам, потым асістэнтам рэжысёра, загадчыкам трупы, галоўным адміністратарам.

У 1990 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці тэатразнаўца-арганізатар тэатральнай справы і праз некаторы час быў прызначаны дырэктарам-распарадчыкам, а з сакавіка 1997 года дырэктарам тэатра імя Я. Коласа.

Прайшоўшы шлях ад навучэнца студыі пры тэатры да яго дырэктара, А. І. Харкевіч заўсёды быў чалавекам вялікага добрага сэрца, спагадлівым таварышам, уважлівым і чулым кіраўніком. Яго добра ведалі ў Віцебску і вобласці, любілі і цанілі, як сумленнага чалавека і высокапрафесійнага спецыяліста тэатральныя работнікі ўсёй рэспублікі.

Працуючы на розных пасадах, Аляксандр Іосіфавіч Харкевіч заўжды заставаўся верным рыцарам тэатра, змагаўся за яго росквіт, марыў пра яго будучыню.

Нечаканая смерць вырвала з нашых радоў гэтага сціплага, цудоўнага чалавека. Памяць пра яго назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто добра ведаў яго, працаваў разам.



**А.У. Сасноўскі, У.П. Андрэйчанка, У.П. Кулакоў, У. В.Пелагейка, Л. К. Аленская, М. М. Яроменка, А. А. Дудараў, С. А. Акружная, А. Ф. Андросік, В. М. Баркоўскі, Р. Л. Бузук, Г. Б. Давыдзька, Г. І. Герасімовіч, Т. А.Кокштыс, А. П. Кірыенка, У. А. Куляшоў, В. Я. Мазынскі, М. П. Пашынскі, Л. І. Трушко, Я. П. Шыпіла, Ф. І. Шмакаў.**

ПАМЯЦЬ

# Ён жыў дзеля іншых

На шасцідзесятым годзе пайшоў з жыцця вядомы журналіст, выдатны філолаг, чалавек высокай культуры Міхаіл Лук'янавіч Тондзель.

Цяжка развітвацца з чалавекам, які вельмі любіў жыццё, людзей, родную Бацькаўшчыну. Удвая цяжэй сям'і, што страціла свайго бацьку, мужа, брата, дзядулю, які бязмежна любіў родных і блізкіх. Вельмі цяжка журналістам Беларускага радыё, з якімі ён быў поплеч 35 гадоў. Сваіх калег па радыёстанцыі "Беларусь", якая штодзённа вядзе перадачы для суайчыннікаў, што жывуць у краінах Еўропы, Паўночнай Амерыкі, Аўстраліі, Міхась Тондзель заўсёды называў "сваёй другой сямейкай". Усе радыёперадачы, пад якімі стаяў яго подпіс, вызначаліся багаццем мовы, трапным ужываннем роднага беларускага слова. Да яго як да дарадцы звярталіся не толькі нашы калегі, але і спецыялісты-мовазнаўцы. Асноўная тэма выступленняў журналіста Міхася Тондзеля — беларуская культура. Ён аўтар праекта цыкла перадач "Рупліўцы нацыянальнае нівы", імёны якіх складаюць гонар Беларусі.

Шмат удзячных пісьмаў-водгукаў ішло на імя Міхася Тондзеля з розных куткоў свету, дзе нашы суайчыннікі прымаюць голас Беларусі. Ён многае зрабіў дзеля ўмацавання культурных сувязей з суайчыннікамі свету.

Пахаванне Міхаіла Лук'янавіча адбылося на роднай Нясвіжчыне, дзе ён і нарадзіўся.

Памяць пра Міхася Тондзеля дарагая для кожнага, хто яго ведаў, і навечна застанецца ў нашых сэрцах!

**Журналісты Беларускага радыё**

УГОДКІ

**ЗМЯНІЛАСЯ эпоха. Мы жывём сёння зусім у іншай краіне. Але, як кажуць паэты, Беларусь нікога не забыла — мёртвых і жывых сваіх салдат. Колькі іх было, рупліўцаў роднага слова, тых, хто шчодра абрабляў і засейваў родную ніву штогод новай рунню! Сярод іх — і Міхась Рыгоравіч Ларчанка. Сёння ёсць нагода ўзгадаць яго — спаўняецца 90 гадоў з дня яго нараджэння.**

# З-пад крыла Ларчанкі

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАСТАЎНІКА І ВУЧОНАГА

Яму многія навукоўцы, спецыялісты-філолагі, пачынаючыя літаратары абавязаны сваім прафесійным ростам. Гэта быў сапраўдны патрыярх роднага слова, карыфей сваёй эпохі, магутны самабытны талент. Доктар філалагічных навук (1956), універсітэцкі прафесар (1957), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977), удзельнік Айчыннай вайны, мудры і разважлівы педагог вышэйшай школы, які працяглы час з'яўляўся дэканам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе рыхтавалі няўрымслівых і апантаных маладых прафесіяналаў, спецыялістаў-філолагаў з вышэйшай адукацыяй.

Ён узначаліў філфак на станцыі Сходня пад Масквой, а, вярнуўшыся ў родны Мінск, доўга не пакідаў той пасады, застаючыся нязменным важаком філолагаў, гожа прадстаўляючы іх на ўсіх узроўнях. Ён меў шмат вучняў, студэнтаў, аспірантаў, кандыдатаў і дактароў філалагічных навук, быў прызнаным аўтарытэтным навукоўцам, да зацікаўленага і глыбокапрафесійнага слова якога прыслухоўваліся, парады і заўвагі якога ўзважваліся і рознабаковыя навуковыя ідэі якога імкнуліся плённа развіваць. Ён, слынны вучоны, зусім не баяўся, што ягоныя вучні, калегі-навукоўцы, могуць яго зацьміць, пакінуць у баку ад магістральных шляхоў навукова-даследчых росшукаў. Увысь ірваліся маладыя таленты ў навуцы, паэзіі, прозе, драматургіі, публіцыстыцы, педагогіцы вышэйшай школы. І ўсім ён садзейнічаў як мог і як умеў, светла і ўзнёсла, радуючыся поспеху кожнага і бласлаўляючы пабацькоўску ў далёкую дарогу прафесійнай дасканаласці не на адзін дзень, а на цэлы век, на чалавечае жыццё. І рэдка памыляўся. Выдатны педагог, ён меў асаблівую ўнутраную інтуітыўную, здавалася б, чуйнасць на сапраўдныя таленты.

Доктар філалагічных навук прафесар М. Ларчанка стварыў выключную унікальную кафедру беларускай літаратуры ў БДУ, заклаўшы трывалыя асновы навукова-педагагічнай дзейнасці ў вышэйшай школе, заснаваўшы менавіта Ларчанкаўскую навуковую школу са сваімі метадалагічнымі прынцыпамі даследавання, культурай навуковай працы, паслядоўнасцю і дасканаласцю навуковага аналізу, сваёй праблематыкай, да канца адстойваючы прынцыповыя падыходы ў ацэнках і характарыстыках любой літаратурнай з'явы, застаючыся цвёрдым і перакананым у сваёй праваце, праяўляючы глыбокі светапогляд і сумленнасць сапраўднага вучонага. І калі, па вобразным выказванні класіка, уся руская літаратура "выйшла" з гогалеўскага "шынеля", дык, па ўсеагульным прызнанні многіх беларускіх літаратуразнаўцаў, крытыкаў, гісторыкаў роднай літаратуры, усе яны, універсітэцкія навукоўцы-філолагі, кандыдаты навук, дацэнты, прафесары, а таксама шматлікі атрад паэтаў, празаікаў, спецыялістаў-філолагаў вышэйшай кваліфікацыі, выйшлі з-пад ларчанкаўскага крыла.

На кафедры беларускай літаратуры БДУ, якая доўгія гады з'яўлялася вядучай кафедрай для спецыялістаў-філолагаў вышэйшай кваліфікацыі, флагманам беларускай філалогіі на Беларусі, у розныя часы працавалі нашы вядомыя вучоныя: І. Навуменка, А. Лойка, Н. Гілевіч, Д. Бугаёў, К. Хромчанка, С. Александровіч, А. Адамовіч, В. Казлова, Р. Семашкевіч, М. Яфімава.

Аўтара гэтых радкоў Міхась Рыгоравіч таксама "вёў" па жыцці ад вучнёўства да студэнцтва, да аспіранцтва, да выкладчыцкай працы.

М. Ларчанка, будучы адным з першых арганізатараў літаратуразнаўчай навукі на Беларусі і ў Белдзяржуніверсітэце, сам з'яўляўся нястомным "генератарам навуковых ідэй", шукальнікам новага ў гісторыі беларускай літаратуры, крытыцы і літаратуразнаўстве.

Спектр навуковых інтарэсаў прафесара М. Ларчанкі даволі разнастайны. Вядомы яго навуковыя даследаванні "На шляхах да рэалізму" (1959) і "Па шляху рэалізму" (1959). Але найперш доктар філалогіі М. Ларчанка вядомы як паслядоўны даследчык літаратурных узаемасувязей, гістарычных каранёў і паралеляў у развіцці славянскага прыгожага пісьменства. Адна за другой выходзяць яго кнігі: "Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст." (1958), "Славянская супольнасць" (1963), "Яднанне братніх літаратур" (1974), дзе даследуецца характар узаемасувязей і ўзаемадзеянне беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі славянскага свету.

Схільнасць да ўсебаковага аналізу, глыбіня крытычных абагульненняў, канцэптуальнасць падыходаў, вастрыня зроку і надзённасць пастаноўкі праблем — такімі рысамі надзелены многія навуковыя даследаванні і літаратуразнаўчыя працы прафесара М. Ларчанкі.

Кожны, хто яго ведаў, радаваўся, што ён меў да яго дачыненне, быў знаёмы з ім, разам працаваў, меў шчасце і гонар быць яго сучаснікам. Ларчанку нельга было не вылучыць сярод іншых навукоўцаў, выкладчыкаў, ці нават не прыкмеціць у натоўпе на вуліцы. Магутны сакратаўскі профіль з пышнай шавялюрай кучаравых ад прыроды валасоў, што німбам ззялі над ягоным шырокім і ўсмешлівым тварам. Магутны, мажны, шырокі ў плячах, ён уваходзіў у студэнцкую аўдыторыю, як Бог, як само жывое ўвасабленне Бога-грамавержца. Ён пачынаў гаварыць, і студэнты разумелі, што да іх прыйшоў паэт, прарок-вяшчун, выдатны знаўца гісторыі беларускай літаратуры і беларускага фальклору, сейбіт праўды і дабра. Амаль кожную сваю новую лекцыю ва універсітэце прафесар М. Ларчанка пачынаў 5-мінутнай паэзіяй: ён чытаў вершы. Прычым чытаў усе вершы па памяці. Чытаў прафесар-паэт і свае ўласныя вершы, якія пісаў праз усё жыццё, пачынаючы з самых ранніх "маладнякоўскіх" захапленняў.

Ён любіў і ўмеў весці рэй у гаворцы, любіў жартаваць, быў вясёлым чалавекам, мог падтрымаць бяседу, праяўляючы эрудыцыю, дасведчанасць у многіх пытаннях. Асабліва ж любіў філалогію, слова, быў бязмежна адданы літаратуры. Чароўную магію слова разумеў дасканала, умеў карыстацца тым словам і пранікаў у таямніцы і глыбіні роднага слова, якому аддана служыў усё сваё жыццё.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ, загадчык кафедры беларусазнаўства, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, член Саюза беларускіх пісьменнікаў**

МЕРКАВАННЕ

# Ахоўваць чысціню душ

Здзейснена маштабная задума. Пры значнай падтрымцы ўплывовай грамадскай арганізацыі — Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", па благаслаўленні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі Філарэта ўвасоблена ў жыццё праца па стварэнні копіі Крыжа Праведлебнай Еўфрасінні Полацкай. Імя брэсцкага майстра Міколы Кузьміча паўстала побач з памяццю аб старажытным майстры Лазары Богшы.

Радуюцца тыя, хто паспеў у ліку першых тут, у Мінску, прыкласціся сваімі грэшнымі вуснамі да асучаснена аднаўленай святыні; радуюцца ўдзячныя Госпаду першыя паломнікі; у радасці намерваюцца з Божай дапамогай хутчэй ажыццявіць сваё наведванне зямлі святой Еўфрасінні тыя, хто там яшчэ не бываў; радуюцца ўсе шчырыя праваслаўныя вернікі Беларусі. Хваляй пракацілася думка, што калі ўлагоджана Нябесная Заступніца, то цяпер, нібыта, усе праблемы Айчыны будуць вырашаныя і пачне ўзрастаць дабрабыт народа. Гэта выказвалі і высокія саноўнікі, і суровы просты люд, і "сярэднестатыстычныя абывацелі" са сваёй звыклай цікавасцю да пікантных падрабязнасцей (на гэты раз да асобы мастака, асобы фундатара, кошту выдаткаў, надзейнасці аховы ад крымінальных драпежнікаў і г.д.). Вось толькі ці зацікавіць каго пытанне наступнага зместу: як сама Маці наша Еўфрасіння, малітвенніца перад Госпадам за ўратаванне народа Беларусі, успрымае агульную радасць узнаўлення Яе Крыжа? Як вядома з адкрыццяў святых айцоў, высокія Нябесныя Насельнікі таксама размаўляюць між сабой, напэўна ж, дзеляцца і ўражаннямі. Для прыкладу варта нагадаць гісторыю ўзнікнення пяцілічбенных малітваў, складзеных свяціцелем Зміцерам Растоўскім паводле Нябеснай размовы Госпада Нашага Ісуса Хрыста са Сваёю Прачыстай Маці, якую чуў адзін з Баганосных старцаў, стоячы на малітве. Ці не маркоціцца, адначасова з радасцю, наша Нябесная апякунка сваім высокім нябесным смуткам (жалем, журбою, тугою, скрухай, шкадаваннем і г.д. — шмат слоў назапашана на гэты выпадак у роднай мове) аб арыгінале, пра лёс і сучаснае знаходжанне якога Ёй, пэўна ж, вядома. Знікненне былога напрастольнага Крыжа Святой Еўфрасінні — ці не знак нашчадкам на вартасць валодання ім? У гэтай сувязі тым больш узрастае ўсенародная адказнасць за новую духоўную рэліквію; адказнасць захавання не пры дапамозе АМАПа ці абмежаванасці доступу, а праз ачышчэнне нацыі ад грахоўнасці, утрыманні душ сваіх у чысціні. "Прыкладам Тваім, Маці, Прасветніца Беларусі, можна збавіціся, то Ты ўзяла Крыж і пайшла за Хрыстом і прыкладна вучыла, як трэба грэбаваць целам, а хадацца за душу несмяротную. Дзеля гэтага, дастойная Еўфрасіння Вялікая, князёўня Полацкая, Твой Дух будзе радавацца разам з анёламі" ("Праваслаўны малітоўнік", трапар, спеў 8. Таронта, 1990).

На жаль, у наш час грэбаваць целам і найбольш клапаціцца пра душу несмяротную не надта звыкла і папулярна. Наадварот, амаль нормай становіцца сексуальная разбэшчанасць, распуцтва праз беззаконні. Наступ варожых сіл, бачных і нябачных, усё больш адчувальны. Усё часцей самым галоўным раскрадальнікам скарбаў душы становяцца грошы. Парадаксальна, але амаль у аднолькавай ступені спустошваецца душа і праз катастрафічную адсутнасць грошай, і праз залішак іх. Сучасны камерсант, пры найме на працу прыгожай дзяўчыны, тлумачыў (у прысутнасці маці яе) абавязкі, у тым ліку "развлекать" і далей: "К примеру, ездить вместе с нами на пикники и делить прочие сладости жизни". Гераінямі нашага часу пачуваюць сябе "ўтрыманкі "мужчын. Ад іх часам ці не ў захапленні нават журналісты, распавядаючы, як тыя шыкуюць грашыма і цвёрда трымаюцца свайго курсу, лічачы, што для гэтага ўсе сродкі прыдатныя, нават сувязь з бандытамі, бо самі журналісты амаль безвынікова ўзважваюць недаацэнку працы творчых людзей дзяржавы, церпячы гвалт над асобай. Дзеля грашовай раскошы нехта бессаромна крадзе, нехта дазваляе сабе іншыя беззаконні. Наша грамадства ці не на кожным кроку сутыкаецца з парушэннем Запаветаў Божых. Факт відавочны, неаспрэчны. І на пабытавым узроўні, і ў звязцы "чалавек— дзяржава", і ў адносінах да гістарычнай спадчыны, святой неабходнасці шанаваць памяць продкаў, іх атрыбутыку, мову і г.д. Усё часцей людзі, якія найбольш набліжаны да Бога, сцвярджаюць, што зямлянне знаходзяцца перад канцом свету, што чалавек ушчэнт "амярзоціўся" і ўратаваць сябе можа толькі праз пост, пакаянне, малітву.

Самае трывожнае — неразуменне большасцю людзей паняцця граху, узмацненне язычніцкага наступу, нярэдка ў "жыдоўска-масонскай" повязі. Прашу прабачэння ў прыняўшых Хрыста яўрэяў, спадзяюся, што абыдзецца без помс лівага ўзрушэння з боку астатніх, у імя агульнага Творцы і грознага Суддзі.

"Чарговай сусветнай падзеяй будзе з'яўленне Антыхрыста. Хто чакае яго прыходу? Чакаюць яго правадыры яўрэйскага народа, як свайго месію. Не прынялі ж яны Ісуса Хрыста, які прыйшоў у імя Айца Нябеснага. Затое прымуць таго, хто прыйдзе ў імя сваё. Чаканы яўрэямі месія хрысціянам будзе Антыхрыстам, фальшывым месіяй... (З кн.: "Манахі Афонскай гары аб Праваслаўнай духоўнасці". — Гайнаўка — Беласток, 1996, с. 37).

Думаецца, усім ёсць над чым сур'ёзна паразважаць, каб набытая святыня стала сапраўдным (па-свецку кажучы) талісманам спрыяння ў нашым нацыянальным адраджэнні, каб нашы святы былі не бутафорным грукатам, а сапраўдным, надзейным сігналам да вызвалення душы ад варожага гнёту.

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5823
Нумар падпісаны ў друк 13.11.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6753/Г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12